


# Рэгіянальная газета

1 сакавіка 2013 года
№ 9 (931)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".





**Беларусы – гэта мы! Так адказалі некаторыя з сотні апытаных маладзечанскіх вучняў**

21-я старонка



**Дзякуючы верхавой яздзе хлопчык пачаў хадзіць**

22-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Шымон Перэс адсвяткуе дзень нараджэнне на радзіме

**ВАЛОЖЫН.** На канец ліпеня – пачатак жніўня Прэзідэнт Ізраіля плануе паездку ў Літву і Беларусь. Як паведамляе польскае радыё, даты і дакладныя месцы візіту Перэса ўдакладняюцца. У Літве і Беларусі ўжо абвешчана, што прыезд ізраільскага Прэзідэнта будзе сустрэты з радасцю. Прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс (Сямён Перскі) нарадзіўся 2 жніўня 1923 года ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.

## Юрысты і псіхолагі падтрымаюць жанчын

**МАЛАДЗЕЧНА.** У панядзелак, 4 сакавіка, у бібліятэцы імя Максіма Багдановіча для жанчын будзе працаваць бясплатная юрыдычная кансультацыя. Яна разлічаная дапамагчы тым, хто выхоўвае непаўналетніх дзяцей. Гэтую акцыю праводзіць цэнтральная раённая бібліятэка сумесна з тэрытарыяльным цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Мерапрыемства пачнецца а 17 гадзіне вечара. Папярэдні запіс па тэлефоне **77-15-66**. Пра гэта паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**.

**Аддзел інфармацыі.**



# Згвалціў, збіў, абакраў, пахаваў пад снегам – дзяўчына выжыла



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Здарэнне адбылося ноччу 10 лютага на гэтым месцы – паміж вуліцай, на якой стаіць дом ахвяры, і чыгункай. Дзяўчына ўбачыла злачынцу дзякуючы святлу ад цягніка, які якраз праязджаў. Працяг тэмы на 4-й старонцы. Больш фота на сайце rh.by.**

ВЫСТАВЫ

# Аляксандр Грышкевіч падарыў музею карціну

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча 22 лютага адбылося адкрыццё персанальнай выставы мастака Аляксандра Грышкевіча. Прысутнічаў на ім і аўтар работ.**

На адкрыцці мастак падарыў краязнаўчаму музею адну са сваіх карцін – пейзаж "Вясна на рацэ".

**– Чаму вырашылі правесці выставу ў Вілейцы?**

– Таму што гэта родныя мясціны – як кажуць, трэба аддаваць даўгі. Гэта выстава – у памяць маіх продкаў і ў падарунак людзям, якія жывуць тут.

Я хоць нарадзіўся ў Маладзечне, але дзяцінства праводзіў у бабулі на вёсцы. На канікулы мяне сюды адпраўлялі ў ссылку (усміхаецца). Калі звозілі, мне не вельмі падабалася, бо ў Маладзечне сяброў нашмат больш было. А вёска называецца Дашкаўка. Якраз на мяжы Вілейскага і Мядзельскага раёнаў.

Вёсачка невялікая, можа сказаць, нават хутар – былая зямля майго прадзеда. Яны з братам купілі гэту зямлю, перасяліліся з вёскі Халапы (цяпер гэта частка Вілейкі). Мама таксама з Дашкаўкі. Бацька каля Княгініна нарадзіўся, у вёсцы Кіржына – яна маленькая, а Дашкаўка яшчэ меншая. У Дашкаўцы дашкольнікам час праводзіў, а таксама калі ў школе вучыўся, і цяпер ездзім. Я, праўда, не так часта прыязджаю, брат часцей. І вельмі ўдзячны, што мяне запрасілі з выставай у Вілейку.

**– А як гэта атрымалася?**

– Прапанаваў правесці выставу вілейскі мастак Эдуар Мацюшонак. Звязаліся з дырэктарам музея Сяргеем Ганчаром, той паставіў выставу ў план. Я не прадаў ніводнага твора з персанальнай выставы ў Мінску, якая праходзіла паўгода таму, каб правесці яе тут.

**– Расказалі, што супрацоўнікі музея дапамаглі вам у пошуках дакументаў, звязаных з вашай сям'ёй?**

– Так. Вольга Коласава знайшла дакумент з архіва Рэчкаўскай царквы, які знаходзіцца ў музеі. Прэзентавала ксеракопію, дзе ёсць запіс пра хрышчэнне маёй маці. Бачыў запіс у іншай кнізе, у дзяржаўным архіве ў Мінску. Там іншы быў запіс. А тут убачыў, што маю маці, калі хрысцілі, назвалі Веранікай. А я ніколі ў жыцці гэтага не ведаў. І яна, думаю, не ведала. Проста звалі ўсё "Вера, Вера". А яна была Веранікай. Для мяне гэта сюрпрыз.

**– Колькі работ прадстаўлена на выставе?**

– Палічыў, што ў зале памесціцца каля сарака работ. Хаця ёсць іх яшчэ на адну такую выставу.

**– Разумею, што ёсць тут пейзажы з нашага рэгіёна...**

– Так. Пейзажы амаль усе беларускія. Мясціны ёсць і дашкаўскія, і маладзечанскія, і з-пад Мінска, і з Польшчы, Літвы, Расіі. Але яны ўсе вельмі падобныя. Нават калі езджу за мяжу, на пленэры, там з мяне смяюцца: "Ты і тут знаходзіш беларускія матывы". У Польшчы, Літве – нават там – стараюся знайсці характэрныя для Беларусі матывы.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Аляксандр Грышкевіч.

Ведаеце, у нас гэтыя мясціны ўжо згубленыя – калі прайшла калектывізацыя, хутары зносілі, людзей перасялілі па вялікіх вёсках. Калі было поле, а пасярод ішла дарожка да хутара, абсаджаная дрэвамі, камяні вялікія. І такая купка дрэў, гаспадарка... Гэта такі краявід, якога ў нас няма. А ў Польшчы і ў Літве ёсць такія. Экзатычныя краявіды не малюю, шукаю краявіды, характэрныя для нашых мясцін. Можа быць, дрэва адно стаяць, можа быць, рэчка якая, паварот дарогі.

На выставе ўсе краявіды натурныя – калі ў дадзены момант у гэтым месцы, пры гэтым асвятленні ёсць такі сюжэт. Прывёз сюды маленькія краявіды. Хацеў нават выставу назваць "30 на 40" – гэта асноўны памер, які буду паказваць.

**– Усё ж выстава засталася без назвы...**

– Я не люблю назвы. Вельмі мала бачыў такіх выстаў, дзе назва ёй бы дапамагала, вельмі рэдка, каб дабаўляла нешта выставе. Таму пакінуў без назвы, нават не назваў "Выстава краявідаў". Таму што мне хацелася нечага большага. Каб глядач, можа, за краявідам нейкі характар чалавека ўбачыў. Не толькі відок такі, ландшафт – гэта не ландшафт, гэта нешта большае. Мне хацелася, каб краявід раскрываў характар беларусаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Фота работ з выставы на сайце rh.by.**

ТУРЫЗМ

## Летась замежных турыстаў на Маладзечаншчыне паболела

**МАЛАДЗЕЧНА. Ім аказана розных паслуг амаль на 1,5 мільёна долараў.**

Летась у Маладзечне распрацавалі праграму па медыцынскім турызме для замежнікаў "Запрашаем у Беларусь". Яна павінна была сумяшчаць атрыманне высокакваліфікаванага медыцынскага абслугоўвання ў ЦРБ Маладзечна і знаёмства з цікавымі мясцінамі раёна і Беларусі.

Сёлета на 1 студзеня ў раёне зарэгістравана 18 сельскіх аграсядзіб. Тут таксама пралягае больш за 15 турысцка-экскурсійных маршрутаў.

Турысцкі клуб "Пілігрым" арганізоўвае тры пешыя, чатыры веласіпедныя, водны і конны маршруты. Паслугі па арганізацыі паляўнічых тураў прапануе маладзечанскі лясгас.

На тэрыторыі раёна ёсць домік паляўнічага, арганізаваная экалагічная сцяжына даўжынёй адзін кіламетр, на якой размешчаны вальеры з жывёламі.

На Маладзечаншчыне таксама ёсць:

1. Каля 100 гандлёвых аб'ектаў грамадскага харчавання
2. Тры гасцініцы
3. Матэль на 40 месцаў
4. Тры санаторыі
5. Аздараўленчы цэнтр "Зорны"
6. Дом адпачынку "Алеся"
7. Спартыўна-аздараўленчы комплекс "Асілак"
8. Навучальны цэнтр "Лідзія"
9. Сем аздараўленчых лагераў.

На станцыі каля Радашкавічаў будуецца аб'ект прыдарожнага сэрвісу, які плануюць увесці сёлета.

**Паводле БелТА.**

КОНКУРСЫ

## Стварыце гімн Мядзельскага раёна

**МЯДЗЕЛ. Раённы выканаўчы камітэт 22 лютага прыняў рашэнне 219 "Аб арганізацыі конкурсу па стварэнні гімна Мядзельскага раёна".**



У конкурсе могуць прымаць удзел грамадзяне Рэспублікі Беларусь, творчыя калектывы. Кожны з удзельнікаў мае права прадставіць на разгляд конкурснай камісіі адзін твор. Сярод крытэрыяў ёсць і такі: тэкст на беларускай мове.

Конкурсныя працы можна падаваць да 30 красавіка. Ці звычайнай поштай з пазнакай "Конкурс" **(222397, г. Мядзел, пл. Леніна, д.1, к.27,)** ці па электроннай (ideologm@mail.ru, isp@myadel.minsk-region.by), ці прад'явіць асабіста. Вынікі конкурсу падвядуць да 16 мая. Пераможцу ўзнагародзяць Дыпломам і прэміяй у 20 базавых велічынь.

**Аддзел інфармацыі.**

РЫНАК

# Вывучаем геаграфію ў... краме

## Індыйскія алоўкі і фінская аўсянка – на нашых прылаўках




Фота Настасі РОЎДЫ

Беларускім дзеткам даводзіцца забаўляцца з італьянскімі бурбалкамі. Знайсці беларускія ў крамах – цяжкая задача.

**МАЛАДЗЕЧНА. Зайшоўшы ў мясцовыя крамы, часта можна пабачыць, што тавары паўсядзённага ўжытку трапляюць да нас ледзь не з іншага канца свету.**

І тычыцца гэта не толькі экзатычнай садавіны ці марскіх прадуктаў, якія па зразумелых прычынах не могуць быць беларускімі.

Карэспандэнт "РГ" прайшлася па маладзечанскіх крамах у пошуках прадуктаў-"эмігрантаў".

### Свечкі вязуць з Германіі, мыльныя бурбалкі – з Італіі

У першую чаргу звяртаюць на сябе ўвагу тыя тавары, якія прыязджаюць з іншых краін, хаця іх аналагі вырабляюцца і ў Беларусі.

З самых экзатычных краін да нас трапляюць тавары, выраб якіх у Беларусі немагчымы.

**Марская рыба прыязджае з Нарвегіі і Аргенціны, бананы – з Эквадора, бананавыя чыпсы – з Філіпінаў, а апельсіны – з Іспаніі.**

Папяровыя ручнікі на прылаўках ёсць беларускай, чэшскай, польскай і ўкраінскай вытворчасці. Беларускія самыя танныя (каля 9 тысяч рублёў за два рулоны), але іх выбар па колеры і памеры – самы маленькі. Імпартныя каштуюць на 2-3 тысячы рублёў даражэй.

– Калі мы пачынаем працаваць з нейкім канкрэтным таварам, то закупляем усяго аднолькава, – тлумачыць таваразнаўца адной з маладзечанскіх крамаў **Людміла Дзёміна**. – Пасля ўжо назіраем, які лепш набываюць. Наступную партыю закупляем ужо ў адпаведнасці з попытам пакупнікоў. Калі выбар чэшскіх ручнікоў самы вялікі, значыць, іх часцей і бяруць, нягледзячы на даражэйшы кошт.

У аддзелах з касметыкай можна набыць ватныя палачкі і дыскі з Польшчы, Італіі і Францыі. Беларускіх аналагаў мы не заўважылі.

Звычайныя свечкі для тартоў бываюць чэшскія, нямецкія, кітайскія. Мыльныя бурбалкі ў дзіцячым аддзеле – італьянскія, каляровыя алоўкі – індыйскія. Пакеты з каляровай паперы для падарункаў прыязджаюць з Нідэрландаў і Кітая. Такіх, здавалася б, простых тавараў беларускага паходжання ў крамах проста не відаць.

### Каля 70% тавараў – беларускія

Вядома, большасць тавараў на нашых прылаўках – беларускага паходжання. У першую чаргу гэта тычыцца прадуктаў харчавання. Напрыклад, сярод трох дзесяткаў відаў марожанага толькі адзін ці два трапляюць у крамы з Расіі.

Давер да некаторых мясцовых прадуктаў вышэйшы, адзначаюць у крамах. Некаторыя беларускія вырабы традыцыйна карыстаюцца папулярнасцю і ў крамах краін-суседак. Напрыклад, кандытарскія і малочныя тавары.

– Мінулым летам мы адпачывалі ў Калінінградзе, – распавядае ўраджэнка Смаргоні **Дар'я Баневіч**. – Калі зайшлі ў краму і папрасілі самае лепшае і смачнае марожанае, нам далі беларускае. Было вельмі прыемна гэта заўважыць.

– У нас каля 70% усіх тавараў, і прадуктовых, і прамысловых, – беларускія, – кажа спадарыня Людміла. – На першым месцы па экспарце стаіць Расія. Калі казаць пра бытавую хімію, то яе больш прывозяць з Польшчы.

Беларускія тавары не заўсёды таннейшыя за імпартныя. Кітайскі фруктовы цукар (фруктоза) танней за беларускі ў 2-3 разы. Прасяныя крупы з Беларусі абыдуцца пакупніку прыкладна ў 8 тысяч рублёў, а расійскія – у 6 тысяч за аднолькавую вагу. Але гэта тычыцца не ўсіх прадуктаў: украінская сталовая соль можа каштаваць у 4 разы даражэй, чым беларуская.

### На кожны тавар знаходзіцца свой пакупнік

Ледзь не кожны беларускі тавар на прылаўках мае замежнага канкурэнта. І пакупнікі ёсць у кожнага, нават нягледзячы на шматразовую розніцу ў коштах.

На паліцах з крупамі можна знайсці фінскую аўсянку, кошт якой за 600 грамаў – 17 тысяч рублёў. Побач стаіць смаргонская і лідская – 4-6 тысяч за тую ж вагу.

– Вядома, не кожны бачыць сэнс у тым, каб набываць замежны прадукт, калі ў яго ёсць айчынны аналаг, – кажа спадарыня Людміла. – Але ў кожнага тавару ёсць свой пакупнік. Выпадковых тавараў на прылаўках вы не пабачыце. Калі казаць пра тое, на што ў першую чаргу звяртае ўвагу наш пакупнік – на кошт ці якасць – то можна сказаць, што пароўну.

Выбар канкрэтнага прадукту залежыць і ад бюджэту, і ад асабістых жаданняў чалавека.

– Я набываю туалетную паперу, якую робяць у Польшчы, проста таму, што ў іх яна бывае аранжавага колеру – пасуе да пліткі ў маім санвузле, – кажа адна з маладзечанскіх пакупніц.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

| Курсы валют НБ РБ | 21.02 | 28.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 580.00 | **8630.00** |
| Еўра | 11 520.00 | **11 290.00** |
| Злоты | 2 768.28 | **2 711.79** |
| Літ | 3 334.43 | **3 271.42** |
| Расійскі рубель | 285.00 | **282.00** |
| Грыўня | 1 054.77 | **1 062.15** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8570/8640 | **8600/8650** |
| Еўра | 11400/11540 | **11230/11360** |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 20.02 | 27.02 |
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.,** 1 кг | 124950 | **136900** |
| **Сасіскі,** 1 кг | 35050 | **41450** |
| **Свініна, лапатка,** 1кг | 50000 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк,** 1 кг | 88000 | **88000** |
| **Кураня-бройлер,** 1 кг | 23500 | **24800** |
| **Мінтай свежамарожаны,** 1 кг | 23500 | **23800** |
| **Селядзец,** 1 кг | 20800 | **21000** |
| **Скумбрыя х/в,** 1 кг | 81000 | **83000** |
| **Рыс,** 0,9 кг | 10700 | **10700** |
| **Грэчка,** 0,9 кг | 9950 | **9800** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | 10100 | **11000** |
| **Алей** | 16600 | **16400** |
| **Маянэз,** 200 г | 4700 | **4800** |
| **Соус "Мінскі",** 0,5 л | 7790 | **7800** |
| **Кава "Nescafe",** 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты,** бляшанка 160 г | 9200 | **9600** |
| **Цыбуля рэпчатая,** 1 кг | 3800 | **4000** |
| **Капуста,** 1 кг | 3000 | **3800** |
| **Морква,** 1 кг | 4000 | **3500** |
| **Буракі,** 1 кг | 3000 | **4000** |
| **Лімоны,** 1 кг | 18000 | **18000** |
| **Апельсіны,** 1 кг | 14500 | **15000** |
| **Мандарыны,** 1 кг | 18000 | **16500** |
| **Памідоры,** 1 кг | 21000 | **23000** |
| **Агуркі,** 1 кг | 36000 | **27500** |
| **Перац,** 1 кг | 34900 | **35400** |
| **Вінаград,** 1 кг | 37000 | **39000** |
| **Бананы,** 1 кг | 13500 | **14000** |
| **Яблыкі,** 1 кг | 9000 | **8000** |
| **Грушы,** 1 кг | 18000 | **18500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако,** 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла,** 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог,** 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Сала,** 1 кг | 58000 | **58000** |
| **Бульба,** 1 кг | 10000 (5л) | **2500** |
| **Мёд,** 1 кг | 60000 | **60000** |

НАШЫ ГРОШЫ

## Ад 1 сакавіка плата за дзіцячы садок вырасце на 50%

**БЕЛАРУСЬ. Плата за харчаванне дзяцей у дзіцячых садах павялічыцца на 50%. Адпаведную пастанову прыняў Саўмін.**

Цяпер бацькі аплачваюць 40% кошту харчавання дзяцей у дзіцячых садах. Згодна з пастановай, спагнанне платы павялічыцца да 60% ад дзеючых грашовых норм расходаў на харчаванне ў дзень на аднаго выхаванца, у залежнасці ад узросту дзяцей, віду і рэжыму работы дашкольнай установы.

**У выніку памер платы за харчаванне павялічыцца на 50% у месяц і складзе: ва ўстанове дашкольнай адукацыі з рэжымам знаходжання 12 гадзін дзяцей ва ўзросце ад 1 да 3 гадоў – 178 200 рублёў, ад 3 да 6 гадоў – 214 900 рублёў.**

Ва ўстанове дашкольнай адукацыі з рэжымам знаходжання дзесяць з паловай гадзін дзяцей ва ўзросце ад 1 да 3 гадоў памер платы за харчаванне складзе 136 700 рублёў, ад 3 да 6 гадоў –173 400 рублёў у месяц.

Пастанова ўступае ў сілу з 1 сакавіка.

**Наша ніва паводле БелТА.**

МАХЛЯРСТВА

## У Мядзеле прадавалі посуд па завышанай цане

**МЯДЗЕЛ. 17 лютага ў міліцыю звярнуўся жыхар Мядзела. Паведаміў ён пра тое, што мужчына падманным шляхам прадаў жонцы наборы посуду і сталовых прыбораў па завышанай цане.**

Супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі прадаўца: ім аказаўся грамадзянін Расіі. На яго складзены адміністрацыйны пратакол за незаконнае прынясенне іншаземнай валюты ў якасці плацежнага сродку.

**Аддзел інфармацыі.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Забіў за тое, што выпіла ўсю гарэлку

**ВАЛОЖЫН. Суд па гэтай справе адбыўся 7 лютага.**

Абвінавачаны 54-гадовы жыхар Валожына А., раней не быў судзімы. Мае сярэднюю адукацыю, працуе дворнікам ва ўстанове дашкольнай адукацыі. Удавец.

Апоўдні 18 лістапада ён быў п'яны – выпіваў разам з гаспадыняй кватэры Л. Яны пасварыліся. Мужчына спачатку ўдарыў яе ў грудзі тупым прадметам, а потым ударыў нажом у лапатку. Жанчына загінула.

На судзе абвінавачаны сказаў, што не хацеў забіваць жанчыну.

Яны знаёмыя тры гады. Жанчына была ўдава, таму А. дапамагаў ёй па гаспадарцы, часам начаваў.

16 лістапада ён прыйшоў да жанчыны вечарам. Яны крыху выпілі, і мужчына застаўся нанач.

На наступны дзень ён зноў застаўся ў Л. Затачыў гаспадыні нож для шаткавання капусты, а вечарам яны зноў пілі.

Раніцай 18 лістапада жанчына пайшла ў краму. Вярнулася з бутэлькай гарэлкі і пакетам кефіру. Госць крыху выпіў і лёг спаць на ложку ў спальні. Калі прачнуўся, гаспадыня ляжала побач на ложку тварам да сцяны.

Далей абвінавачаны не змог патлумачыць, чаму ён пайшоў на кухню, узяў са стала нож, які напярэдадні затачыў, і ўдарыў ім у правую лапатку, дастаў нож і паклаў яго на стол каля ложка.

Усвядоміўшы, што нарабіў, сказаў, што патэлефануе ў "хуткую". Жанчына адказала, што не трэба, і папрасіла А. легчы каля яе. Праз 10-15 хвілін вырашыў праверыць, як сябе адчувае Л. Павярнуў яе і пачаў трэсці. Мужчына зразумеў, што жанчына памерла. Тады выклікаў "хуткую" і папрасіў выклікаць "міліцыю". А пасля пайшоў дахаты.

Заставалася незразумелым: калі А. нанёс толькі ўдар нажом, адкуль іншыя пашкоджанні на целе ахвяры?

На судзе ў якасці пацярпелай выступіла дачка загінулай. Яна распавяла, што раней жыла разам з маці, але жанчына пачала злоўжываць спіртным разам з А., яны часта скандалілі. Дачка бачыла маці з сінякамі і драпінамі, але тая адгаворвалася, казала, што пабілася.

Дачка ўпэўненая, што А. збіваў яе маці. Таму праз паўгода іх знаёмства яна разам са сваім мужам выгналі А. і паставілі металічныя дзверы. Тады мужчына пачаў прыходзіць тайна, і Л. пускала яго, але не заўсёды. Часам ён начаваў пад дзвярыма.

Суседзі часта казалі дачцэ, што маці і А. скандаляць. У выніку дачка стамілася ад п'янства маці і апошні раз наведала яе ў жніўні.

На допыце А. паказаў, што ўдарыў нажом гаспадыню за тое, што раніцай яна дапіла бутэльку гарэлкі, а яму спіртнога не засталося. Жанчына вось што сказала: раз яна атрымала пенсію, значыць, можа ёй распараджацца, як хоча. А потым кінула пустую бутэльку яму пад ногі, а сама лягла спаць.

Суд абавязаў А. выплаціць дацчэ загінулай 25 мільёнаў рублёў маральнай шкоды.

Суд прызначыў пакаранне – пазбаўленне свабоды на восем гадоў у выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Яго будуць лячыць ад алкагалізму.

Абвінавачаны абскардзіў прыгавор, палічыўшы яго занадта строгім. Ён патлумачыў гэта тым, што не хацеў забіваць жанчыну, а толькі нанесці цялесныя пашкоджанні.

**Андрэй ЖУКОЎСКІ, памочнік пракурора Валожынскага раёна.**


Фота Аляксандры ГАРАХІ.

**Як відаць па гарадскіх "нацюрмортах" у Смаргоні, праблема алкаголю актуальная не толькі для Валожына.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Двойчы згвалціў, збіў, абакраў і думаў, што пахаваў ахвяру пад снегам

**МАЛАДЗЕЧНА. 30-гадовага жыхара вёскі Еленка У. З., які падазраецца ў згвалтаванні і разбоі, затрымалі ў Расіі.**

– Пацярпелая апазнала яго. Цяпер вырашаюць пытанне экстрадыцыі, – паведаміў **Юры Багушэвіч**, следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.

Паводле слоў следчага, здарэнне адбылося ноччу 10 лютага ў Алёхнавічах. 18-гадовая навучэнка мінскага каледжа вярталася на машыне дадому са знаёмымі. Спачатку высадзілі яе хлопца. Дом дзяўчыны знаходзіўся далей.

Машына была двухдзверная. Яна сядзела на заднім сядзенні, на пярэднім – У.З., а за рулём – яго зводны брат.

Дзяўчына папрасіла спыніцца – наперадзе быў мост, праз які машыне цяжка было б праехаць, а дом быў ужо недалёка. Яна выйшла і пайшла. У.З. выйшаў за ёй, сказаўшы брату, што ў яго ёсць справы ў Алёхнавічах, што ён тут застанецца. Брат паехаў.

Мужчына дагнаў дзяўчыну, схапіў ззаду і зацягнуў у кусты паміж дарогай і чыгуначнымі пуцямі. Ён яе згвалціў. Пасля адабраў некаторыя рэчы і збіў. Зноў згвалціў і зноў нанёс некалькі ўдараў.

Дзяўчына спачатку не магла зразумець, хто на яе напаў, але якраз праязджаў цягнік, які асвяціў твар У.З. Яна была слабай, але ў прытомнасці, разумела, што жывой ён яе не адпусціць, таму прыкінулася мёртвай.

Пасля гэтага мужчына пачаў закідваць ахвяру снегам, стаў на яе зверху, каб утрамбаваць снег, утыркнуў кусты, каб месца не выклікала падазрэнняў.

Калі ён сышоў, дзяўчына выбралася з-пад снегу і дайшла дадому.

Далейшыя экспертызы будуць праводзіць у Беларусі, калі падазронага сюды вернуць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка "РГ". Экстрадыцыя** – выдача замежнай дзяржаве асобы, якая парушыла закон той дзяржавы, куды яго перадаюць.

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Пацярпелыя ў аварыі збеглі з бальніцы

**АСТРАВЕЦ.** Машына з п'янай кампаніяй перакулілася ноччу 24 лютага каля вёскі Гоза на Астравеччыне.

Кіроўца "Пежо" быў таксама нецвярозы. На Т-падобным перакрыжаванні ён замест таго, каб павярнуць направа, паехаў прама і перакуліўся ў кювет.

А так як не быў прышпілены рамянём бяспекі, атрымаў раненні і пройдзе курс амбулаторнага лячэння.

У бальніцу таксама даставілі трох нецвярозых пасажыраў. Але яны адтуль збеглі.

Кампанія збіралася адпачыць на Нарачы, таму купілі піва і паехалі.

Начальнік дзяжурнай часці райаддзела міліцыі **Ігар Шупенка** патлумачыў, чаму тут не крадзеж, а рабаванне:

– Іх заўважылі мінакі, але яны не спыніліся і працягвалі красці на вачах у іншых людзей, а потым збеглі. А тут ужо артыкул – "Рабаванне".

## Тры жанчыны абакралі бабулю

**ВАЛОЖЫН.** Бабуля, жыхарка вёскі Зарэчча Валожынскага раёна, звярнулася ў міліцыю 24 лютага, праз два дні пасля здарэння.

Недзе каля трох гадзін дня 22 лютага 83-гадовая бабуля ўпусціла ў дом пагрэцца ды перакусіць трох жанчын.

Пакуль наразалі сала, бабулю загаварылі.

Тым часам адна з жанчын зайшла ў спальню і ў шафе знайшла ды забрала больш за два з паловай мільёны рублёў.

Цяпер узбуджаная крымінальная справа.

Пра падрабязнасці здарэння паведаміў намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Віталь Мінкевіч**.

**Паводле дзяржаўтаінспекцыі Гродна і Гродзенскай вобласці.**

## У політэхнічным каледжы абакралі выкладчыцу

**МАЛАДЗЕЧНА.** Выкладчыца маладзечанскага каледжа вяла заняткі. На перапынку выйшла з кабінета, пакінуўшы там сваю сумку, а калі вярнулася, грошы і картку ўжо не знайшла.

Крадзеж адбыўся 21 лютага недзе з 9.30 да 9.45.

З кашалька жанчыны зніклі 30 долараў, 220 тысяч рублёў і банкаўская картка.

Узбуджаная крымінальная справа.

## Мужчына з жанчынай абрабавалі краму

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося ў Чысці 3 лютага каля 22.00.

Мужчына, якому 39 гадоў, разам з 32-гадовай жанчынай выкралі алкаголь, цыгарэты ды прадукты, на суму, большую за 500 тысяч рублёў.

У гэты час зладзеяў заўважылі мінакі, тады яны схапілі накрадзенае ды збеглі.

Крымінальная справа ўзбуджаная 21 лютага.

## У вёсцы Паняцічы з дачы ўкралі бензапілу

**ВІЛЕЙКА.** 21 лютага ў міліцыю звярнуўся мінчанін і паведаміў, што з 19 па 21 лютага нехта дастаў шыбу з акна і пранік у яго дачу ў вёсцы Паняцічы.

Выкраў злодзей бензапілу коштам чатыры з паловай мільёны рублёў.

Устаноўлена, што злачынства здзейсніў 43-гадовы мясцовы жыхар. Ён не працуе, раней быў судзімы за крадзяжы. Мужчына затрыманы. Узбуджаная крымінальная справа. Выкрадзеную бензапілу вярнулі.

## У пажары загінуў чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дом гарэў па вуліцы Святаянскай у Маладзечне ў чацвер, 21 лютага, а дзявятай гадзіне вечара.

Пра тое, што з вокнаў дома ідзе густы чорны дым, выратавальнікам паведаміла падчарка загінулага, якая прыехала яго наведаць.

Пра гэта расказаў інжынер-інспектар дзяржпажнагляду Маладзечанскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Сяргей Касцевіч**.

Пры ліквідацыі пажару выратавальнікамі быў выяўлены труп 63-гадовага мужчыны.

**Аддзел інфармацыі.**

## Не пакідайце месца ДТЗ

**МАЛАДЗЕЧНА.** З такім заклікам звярнуліся супрацоўнікі ДАІ Маладзечанскага РАУС да ўсіх удзельнікаў дарожнага руху 22 лютага.

У апошнюю пятніцу месяца прайшоў Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху "Пакідаеш месца ДТЗ – робіш злачынства", накіраваны на прафілактыку здарэнняў.

## ДАІ будзе сачыць за нецвярозымі пешаходамі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 25 лютага да 3 сакавіка ў раёне пройдзе прафілактычная акцыя "Пешаход".

Акцыя накіраваная на папярэджанне гібелі і траўматызму на дарозе пешаходаў.

Пешаходаў, якія будуць ствараць аварыйную сітуацыю, чакае адміністрацыйная адказнасць.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

ДАПАМОГА

# Якія льготы маюць бацькі дзіцяці-інваліда?



Фота focus.de.

Ільготы могуць значна падтрымаць бацькоў.

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі бацькі выхоўваюць дзіця-інваліда, яны маюць права на пэўныя сацыяльныя гарантыі і льготы.**

Але далёка не ўсе з іх ведаюць свае правы. Таму мы коратка нагадаем, чым вы маеце права карыстацца. На сайце rh.by вы знойдзеце больш падрабязную інфармацыю – там пад кожным пунктам права будзе змешчанае тлумачэнне, на якіх заканадаўчых дакументах яно грунтуецца.

### Ільготы па лекавым забеспячэнні

Вы можаце бясплатна атрымліваць тыя лекавыя сродкі, якія выдаюцца па рэцэптах дактароў. Але ў межах пераліку асноўных лекавых сродкаў, вызначаных урадам.

### Ільготы на тэхнічныя сродкі

У прыватнасці – на выраб і рамонт звычайных зубных пратэзаў для дзіцяці ў дзяржаўных установах аховы здароўя.

А таксама дзіця мае права на забеспячэнне іншымі тэхнічнымі сродкамі сацыяльнай рэабілітацыі ў тым парадку, які вызначае урад.

Памятайце, што права карыстацца льготамі дае толькі пасведчанне аб інваліднасці, якое трэба мець з сабой і паказваць па патрабаванні.

### Ільготы на санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне

Дзіця з інваліднасцю мае права на першачарговае бясплатнае санаторна-курортнае лячэнне, калі на гэта ёсць медыцынскія паказанні і адсутнічаюць супрацьпаказанні.

Тыя, хто суправаджае дзіця-інваліда да 18 гадоў, забяспечваюцца пуцёўкамі бясплатна, калі неабходнасць у суправаджэнні пацверджаецца заключэннем доктарска-кансультацыйнай камісіі дзяржаўнай установы.

Вам могуць выдзеліць больш за адну пуцёўку на год у паліклініцы.

Вы самі можаце стаць на чаргу на пуцёўку ў паліклініцы па месцы працы маці ці бацькі дзіцяці з інваліднасцю.

Варта памятаць, што санаторый паказаны не ўсім дзецям. Доктар параіць тую ўстанову, якая спецыялізуецца на захворванні вашага дзіцяці.

Калі ў сям'і двое дзяцей і адно з іх мае інваліднасць, можна паехаць у адзін санаторый з абаімі. Калі, напрыклад, доктар пацвердзіць, што другое дзіця часта хварэе ці па нейкіх іншых прычынах яму таксама паказаны санаторый.

### Ільготы на праезд

Права на бясплатны праезд на ўсе віды гарадскога пасажырскага транспарту (акрамя таксі). Для тых, хто жыве не ў горадзе, – таксама бясплатны праезд на міжгародніх маршрутках.

А таксама бясплатны праезд на рэгулярным прыгарадным чыгуначным, водным і пасажырскім транспарце.

На дзяржаўныя маршруткі, напрыклад, Мінск-Маладзечна, за дзіця трэба аплачваць палову кошту білета.

Гэту льготу мае і чалавек, які суправаджае дзіця-інваліда.

**Дадатковую інфармацыю вы можаце атрымаць па адрасе: Маладзечна, вуліца Таўлая, 4, кабінет 205 ці па тэлефоне: 8(0176) 77-75-78.**

Мы нагадалі толькі пра некаторыя сацыяльныя льготы, але бацькі, што выхоўваюць дзяцей-інвалідаў, могуць атрымліваць і розную грашовую дапамогу.

Калі неабходныя для вашага дзіцяці лекі не ўваходзяць у пералік асноўных, вы ўсё ж можаце вярнуць грошы за іх набыццё. Гэтую тэму мы ўздымем у адным з наступных нумароў.

**Таццяна ФАЛЕВІЧ,**
**юрысконсульт Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

АБМЕРКАВАННЕ

## У Мядзеле і Вілейцы плануюць аптымізацыю сельсаветаў

**МЯДЗЕЛ. З 23 лютага пачалося грамадскае абмеркаванне па аптымізацыі адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўстройства сельсаветаў раёна.**

Плануецца аб'яднаць Слабадскі і Старагабскі сельсаветы ў Слабадскі сельскі Савет з цэнтрам у вёсцы Слабада. Прапрацаванае пытанне аб'яднання Занарацкага і Сырмежскага сельсаветаў у адзін з цэнтрам у вёсцы Занарач. Плануецца аб'яднаць Сваткаўскі і Княгінінскі сельсаветы. Цэнтр аб'яднанага сельсавета намечаны ў Сватках.

У вызваленых будынках сельсаветаў плануецца ў абавязковым парадку пакінуць памяшканне для прыёму грамадзян, выдачы дакументаў і даведак для насельніцтва па спецыяльным графіку. Падрабязней пра ўсё – тут: http://www.myadel.minsk-region.by/ru/obsujd.

Вывучэнне меркаванняў грамадзян будзе праходзіць на працягу месяца, пачынаючы з 23 лютага. Меркаванні прапануецца падаваць у пісьмовай форме ў раённы выканаўчы камітэт (222397, г. Мядзел, пл. Леніна, 1) з пазнакай "Вывучэнне меркавання грамадзян" або на электронны адрас: ideologm@mail.ru

**ВІЛЕЙКА. Для вывучэння грамадскага меркавання вылучаныя папярэднія прапановы па аптымізацыі сельсаветаў.**

Згодна з імі, застануцца дзевяць сельскіх Саветаў: Куранецкі, Людвіноўскі, Ільянскі, Вязынскі, Нарачанскі, Любанскі, Даўгінаўскі, Іжанскі, Хаценчыцкі.

Меркаванні грамадзян будуць вывучаць адзін месяц з даты апублікавання паведамлення ў сродках масавай інфармацыі і яго размяшчэння ў сетцы Інтэрнэт. На сайце Вілейскага райвыканкама гэта інфармацыя з'явілася 5 лютага. Падрабязней з ёй можна пазнаёміцца на сайце Вілейскага райвыканкама.

Свае меркаванні можна падаць у пісьмовай форме ў райвыканкам (г. Вілейка, вул. Партызанская, 40. З пазнакай "Вывучэнне меркавання грамадзян") або на электронны адрас: vileyka-rec@mail.ru

**Аддзел інфармацыі.**





ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Хто і на што павінны мець ільготы



**Ганна Сушчынская, інспектар-выкладчык гандлёва-эканамічнага каледжа:**

– Ільготы павінны мець толькі карэнныя мясцовыя жыхары, якія працавалі. А прыезджыя няхай жывуць за кошт свайго кутка.



**Ірына Жахавец, бібліятэкарка:**

– У першую чаргу інваліды павінны мець ільготы на праезд у транспарце, а яшчэ на лекі. Я сама сутыкнулася з тым, што трэба лекі купляць. Таму льготы на іх неабходныя любому хвораму чалавеку незалежна ад яго ўзросту.



**Людміла Янковіч, швачка:**

– Пенсіянерам неабходна мець ільготы на святло, на лекі. Яшчэ інвалідам трэба льготы, каб ім было менш плаціць за кватэру. Хачу, каб студэнтам вярнулі бясплатны праезд, ці хоць напалову.



**Анжэла Луцкая, маладая маці:**

– Безумоўна, дзеці павінны мець ільготы. На праезд, на харчаванне. І старэйшае пакаленне таксама заслугоўвае больш ільгот. Ім нават лекі цяжка купіць.



**Андрэй Ермаловіч, слесар:**

– Я лічу, што льготы заслужылі ваенныя, інваліды, пенсіянеры, ветэраны вайны. Ім амаль на ўсё неабходна мець ільготы. Гэтых людзей трэба бясплатна лячыць, выдаваць лекі. Дзецям можна даваць магчымасць бясплатна палячыцца ў санаторыі і адпачыць у дзіцячым лагеры.



**Вольга Саковіч, дызайнер:**

– Студэнты павінны мець ільготы на бясплатны праезд у транспарце. Пенсіянеры – на лекі. А школьнікі – на бясплатнае наведванне культурных і спартыўных мерапрыемстваў.



**Лілія Міцкевіч, пенсіянерка:**

– Інвалідам неабходныя льготы на аплату кватэры, электраспажывання. Я мару аб тым, каб увялі льготы на тэлефон, тым больш, што аплата за яго карыстанне павысілася. Ільготы даюць на тыя лекі, якія я і за свае грошы магу купіць, а на добрыя – ільгот няма.

**Настасся РОЎДА, Вольга ЮРКЕВІЧ.**

МОЛОДЕЧНО
ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28
УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136

АЛМИ
СЕТЬ МАГАЗИНОВ

Только с 25 февраля по 10 марта,
покупая **600г** фруктового салата
**ВЕСЕННИЙ ЭТЮД** всего за **35 000р**
вы получите молочный шоколад АЛМИ
**В ПОДАРОК!**

ШОКОЛАД молочный
НАША МАРКА
80г
+
подарок
АЛМИ СДЕЛАНО ДЛЯ ВАС!

**Салат фруктовый Весенний этюд:**
яблоки свежие, бананы, апельсины, киви, фрукты консервированные, изюм, арахис, сметана, сахар, крем.

**Шоколад молочный АЛМИ** 80г РБ

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале.

**1900** СКИДКА 25% — Продукт йогуртный Альпенлэнд жир.0.3% 95г РФ В ассортименте

**2700** СКИДКА 25% — Сырок глазированный в вафельном рожке Твой рожок жир.23% 35г РФ Ваниль/Вареная сгущенка

**47900** СКИДКА 25% — Сыр Голландский жир. 45% 1кг РБ

только в универсаме **7300** СКИДКА 20% — Тесто слоеное Живи Здорово 450г РБ

**64900** СКИДКА 20% — Орех мясной Аппетитный в/к 1кг РБ

**99900** СКИДКА 20% — Колбаса салями Традиционная с/в в/с 1кг РБ

только в универсаме **30900** СКИДКА 25% — Кальмар тушка 1кг РФ

**26900** СКИДКА 25% — Скумбрия пряного посола б/г 1кг РБ

**16900** СКИДКА 25% — Печень трески Русский рыбный мир 250г РБ

**8500** СКИДКА 30% — Шампиньоны Лорадо резаные 314мл Китай

только в универсаме **7950** СКИДКА 30% — Ананасы Добрада кусочки в собственном соку 565г Вьетнам

только в универсаме **4950** СКИДКА 20% — Пюре Фруто Няня 112г РФ в ассортименте

**5950** СКИДКА 30% — Нектар Джой 1л РБ Апельсин/Мультифрукт/Ананас

только в универсаме **13500** СКИДКА 25% — Чай черный Липтон 20пир РФ Черничный кекс/Клубничный пирог

**23900** СКИДКА 25% — Кофе молотый Чибо Голд Селекшн 250г Польша

**9500** СКИДКА 30% — Шоколад Шогеттен 100г Германия Молочный с орехами/Молочный с карамелью/Темный с марципаном

только в универсаме **8500** СКИДКА 20% — Конфеты Турончики Ориджинал Рошен 200г Украина

только в универсаме **6600** СКИДКА 20% — Печенье сдобное Яшкино 137г РФ Клубника/Вишня/Апельсин

**4500** СКИДКА 30% — Чипсы Онега 60г РБ Сметана с луком/Лесные грибы со сметаной

**2050** СКИДКА 25% — Мыло Флоралюкс 70г Украина В ассортименте

**53900** СКИДКА 20% — Стиральный порошок Тайд Автомат 3кг РФ В ассортименте

**4500** СКИДКА 30% — Средство для мытья посуды Минута 500г РФ В ассортименте

только в универсаме **8500** СКИДКА 25% — Прокладки Белла Фо Тинс Суперт Ультра 10шт Польша Энердж/Релакс/Сенситив

только в универсаме **15500** СКИДКА 30% — Чистящее средство Силит для туалетов 500мл РФ Ледяная/Лимонная/Лесная свежесть

товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 27 ФЕВРАЛЯ ПО 12 МАРТА 2013 ГОДА**

• Памяшканне ў Вілейцы, 25 кв.м. Т. (8-029) 7049910.

## НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, чысцiню і своечасовую аплату гарантую, тэрмiнова. Т. (8-029) 5737644.*

• 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна для маладой сям'і (ёсць дзіця), пажадана са свежым рамонтам, на доўгі час. Добрыя гаспадары, гарантуем чысцiню і своечасовую аплату. Т. (8-029) 5777020, (8-033) 6612108.*

• 1-2-пакаёвую кватэру для маладой сям'і з двума дзецьмі, тэрмiнова. Т. (8-025) 9428511.

• 1-2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне на працяглы тэрмін для сям'і, чысцiню і своечасовую аплату гарантуем. Т. (8-029) 5525940

• Гараж ў Вілейцы. Т, (8-029) 8723841.

• Кватэру для маладой дзяўчыны. Т. (8-029) 3635587.*

• Кватэру для сям'і з 3-х чалавек на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 5600196.

• Кватэру ў Вілейцы для 2-х маладых дзяўчат, аплату гарантуем своечасова. Т. (8-029) 5738545.*

• Кватэру ў Вілейцы. Т. (8-029) 9276686.*

## ІНШАЕ

• Вазьму ў Вілейцы ў арэнду памяшканне пад краму. ПП "Лаўка цудаў". УНП 191449675. Т. (8-029) 5509900.*



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"АФРАДЫТА". ПРОДАЖ ВЯСЕЛЬНЫХ, ВЯЧЭРНІХ УБОРАЎ. СУКЕНКІ ДЛЯ ДЗЯЎЧЫНАК. ВЯСЕЛЬНЫЯ АКСЕСУАРЫ. Г.ВІЛЕЙКА, ВУЛ.ВАДАП'ЯНАВА, 23, 2-І ПАВЕРХ. УНП 691172722. Т. (8-029) 3854965.**

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• **"МІЛЭДЗІ"** – вясельныя ўбранні. Вялiкі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэлье "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*

• **"НАДЗЕЯ"** – вясельныя, вячэрнія, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №63. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-029) 3024418.*

• Музычнае абслугоўванне вяселляў і іншых урачыстасцей. Т. (8-029) 6188716.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКІ

• Відэаздымка, відэакліпы, мантаж, аблічбоўка касет, фотадрук. Тэлестудыя "Наш час". УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **IVECO**, бартавы, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*

• Iveco, суцэльнаметалічны, 4,5 м, да 3 т. ІП Ізмераў Н.Б. УНП 691503608. Т. (8-029) 7732793.*

• Рэно Маскот, 3,5 т., 20м3, 4,5мх2,2х2,2, усе віды загрузкі, ёсць санітарны пашпарт. ІП Маляўка А.В. УНП 691502867. Т. (8-029) 2525329, (8-029) 6925329.*

• Гідраманіпулятар на базе "Камаз", грузападымальнасць 10 т., борт 2,40х5 м, вылет стралы 8 м, да 2,5 тон. УНП 691169858. ІП Кароль Е.І. Т. (8-029) 2638867, (8-029) 1588094.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Вырашэнне камп'ютарных праблем. Наладка інтэрнэт і WiFi. Узнаўленне інфармацыі і многае іншае. ІП Коршук С.Н. УНП 691504992. Т. (8-029) 8540934, (8-029) 9856421.*

• Дах, уцяпленне, аддзелка ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок Хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9497847, (8-029) 8910834.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архiвазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамога напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741, (8-029) 7068002, з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа.*

• **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Касманаўтаў 1-а, ларок "Выраб ключоў". ІП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731067, (8-029) 3811905.*

• Зваршчык-сантэхнік выканае работы: ацяпленне, водаправод, каналізацыя, мантаж катлоў і сістэм ацяплення. ІП Капцюг. УНП 691172801.

• Зробім металавырабы, гаражныя вароты, агароджы, плот і інш. Прапануем металапракат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Каханоўскі В.А. УНП 691502073. Т. (8-029) 8716226, (8-029) 9355568.*

• Зруб, ручная цыліндроўка любых памераў. Т. (8-033) 6326464.*

• Насцiланне падлогі ўсіх відаў, работа з вагонкай і іншыя аддзелачныя работы. ІП Петрашкевіч М.М. УНП 691401071. Т. (8-029) 1113493.*

• Нацяжныя столі. Аляксандр. УНП 691167273. Т. (8-029) 6301204, (8-029) 5024464.*

• Прафесійныя музыкі. Вясёлы тамада. Т. (8-033) 6635375.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, АТЛАНТ, ARDO, CANDY, WHIRLPOOL, ZANUSSI, ELEKTROLUX і інш. ІП Аксёнаў В.Р. УНП 590339676. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 3760789.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. (8-0176) 772328, (8-029) 2710273, (8-044) 5559347.*

• **СЕТКА РАБІЦА** (гатовая і пад заказ, з матэрыялу заказчыка). ІП Сарокка. УНП 600066115. Т. (8-029) 3271119, (8-0176) 771119.*

• Стужкі для выпускнікоў ад 9 да 20 тысяч. Гелiевыя шары ад 7200 рублёў. Крама "Фіеста", г.Маладзечна, ул.Валынца, 7. ЧТП УП "Свет Дачніка" УНП 690237633. Т. 749602, МТС (8-029) 2280154, Вэлком (8-029) 1784037.

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі) і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Кананoвiч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

• Электрык. Электрамантаж без пылу. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. www.electroteam.by. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Тыповыя памылкі мужчын у адносінах з жанчынамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Часта можна сустрэць упэўненага, прывабнага, разумнага мужчыну, у якога ёсць усё, што жадае бачыць жанчына.**

Але, тым не менш, калі справа тычыцца жанчын, у іх нічога не атрымоўваецца.

Часам мужчыны проста не могуць зразумець, чаго ад іх чакаюць, і робяць грубыя памылкі. Нягледзячы на тое, што намеры ў іх самыя лепшыя, такія ўчынкі могуць сапсаваць вашы адносіны на ўсё жыццё.

Ёсць пяць тыповых памылак, якія жанчыны не даруюць і ў выніку паставяць крыж на адносінах. Гэта калі мужчыны:

**1. З першых сустрэч праяўляюць пачуццё ўласніка.**

Здараецца, што падчас таго, як мужчына сядзіць дома і глядзіць тэлевізар, яго новая сяброўка сядзіць у кафэ разам з калегамі-мужчынамі. Ужо позна, а яна не тэлефануе. Зразумела, што трэба даведацца, дзе яна, але дазваніцца да яе не атрымоўваецца. Мужчына пачынае тэрарызаваць жанчыну паведамленнямі, званкамі, а ёй гэта не падабаецца. Лепш пачакаць, пакуль яна сама патэлефануе. І нават калі яна расказвае пра свой вечар, не трэба глядзець на яе вачамі, запаленымі рэўнасцю.

Калі даць жанчыне пэўную свабоду, ёй самой захочацца праводзіць больш часу з мужчынам.

**2. Расказваюць пра сваіх былых сябровак.**

Жанчын не цікавіць канкурэнцыя. Дапамагчы мужчыну забыць яго былую, і, у выніку, аказацца лепш за яе – гэта не тое, чым жанчына хоча займацца. Калі, напрыклад, хлопец распісвае сваю ранейшую дзяўчыну як саму дасканаласць, новая сяброўка хутка збяжыць.

Жанчынам не падабаецца, калі іх параўноўваюць з іншымі. У дадатак, ім вельмі хутка надакучыць мужчына, які сумуе па сваёй былой сяброўцы.

Калі ранейшыя адносіны не забытыя, лепш пайсці ў спартзалу, а не пачынаць новыя і выліваць сваё гора жанчыне.

**3. Спадзяюцца на жаночае ўсёдараванне.**

Калі вы некалі моцна пакрыўдзілі жанчыну, досыць наіўна меркаваць, што яна вам некалі гэта даруе, хаця выгляду можа і не падаць. А калі дараваць вам давядзіцца ўвесь час, у адзін "цудоўны дзень", зусім нечакана, вы можаце прыйсці дадому і пабачыць на парозе сабраны чамадан. Альбо ваш, альбо яе.

Здрады таксама не даруюцца.

**4. Не раздзяляюць пачуцці.**



Фота alphacoders.com

Мужчына можа паддацца, каб схаваць пачуццё ўласніка.

Вельмі важна для адносін, каб мужчыны раздзялялі пачуцці сваіх каханых. Прычым як для рамантычных, так і для платанічных.

Жанчыны хочуць, каб іх разумелі і ўхвалялі іх пачуцці.

**5. Скрываюць свае пачуцці.**

Многія робяць гэта, каб не падацца мяккім і слабым. Але не дзяліцца сваімі эмоцыямі з блізкім – памылка, прычым істотная. Гэта таксама перашкода для развіцця адносін.

Канешне, мужчыны могуць не звяртаць увагу на ўсё вышэйсказанае і тлумачыць, што яны хочуць заставацца самімі сабой. Але калі адносіны не ладзяцца даўно, то ім варта задумацца. Памылкі трэба прызнаваць і ліквідоўваць.

**Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

**Па псіхалагічную дапамогу можна звяртацца па тэлефоне: 74-66-20 альбо на адрас: г. Маладзечна, вул. Таўлая, 4. Кансультацыі праводзяцца бясплатна і ананімна.**

ЗАКОН

# Цяпер атрымліваць пашпарт трэба ў 14 гадоў

**БЕЛАРУСЬ. Ад 9 жніўня 2012 года змяніліся правілы атрымання пашпартоў насельніцтвам Беларусі, а таксама пасведчання на права жыхарства замежных грамадзян і асоб без грамадзянства.**

Знізіўся ўзрост, калі пашпарт трэба атрымліваць абавязкова. Цяпер пашпарт і пасведчанне на права жыхарства павінны быць у 14 гадоў. Змяненні звязаныя з тым, што маладыя людзі ад 14 да 18 гадоў маюць права распараджацца сваімі заробкамі, стыпендыямі і дапамогай. Таксама яны маюць права на некаторыя банкаўскія аперацыі і г.д. Менавіта для гэтага ім і патрэбныя пашпарты.

Каб атрымаць пашпарт, 14-гадоваму маладому чалавеку трэба наступныя дакументы: заява ўстаноўленай формы, пасведчанне аб нараджэнні, пашпарты законных прадстаўнікоў, чатыры фотаздымкі памерам 40 на 50 мм, квітанцыя аб аплаце дзяржаўнай пошліны (50 тысяч рублёў), дакументы, неабходныя для рэгістрацыі па месцы жыхарства.

Пашпарты 14-гадовым беларусам будуць выдавацца на дзесяць гадоў. Пры гэтым тэрміны дзеяння пашпартоў будуць прывязвацца не да даты нараджэння, а да даты выдачы.

Асобы, якім 64 гады, будуць атрымліваць пашпарты да 100 гадоў, а ў 99 гадоў – да 125 гадоў.

Калі дзецям, якім няма 13 гадоў, трэба пашпарт, каб выехаць за мяжу, ён будзе выдавацца на пяць гадоў. Але не больш, чым да таго моманту, як дзіцяці споўніцца 14 гадоў.

Дзесяцігадовы тэрмін дзеяння пашпарта звязаны з не так даўно ўведзенымі патрабаваннямі па выдачы віз краінам Еўрасаюза. Пры пераходзе межаў некаторых іншых краін беларусы мелі пэўныя праблемы. Ёсць нават выпадкі, калі нашых грамадзян не прапускалі ў краіны, дзе віза выдаецца ўжо па прыбыцці.

Цяперашнія беларускія пашпарты пачалі выдавацца з канца 1996 года. Самым старэйшым з іх ужо каля 16 гадоў. Гэта – па-за межамі стандартнай практыкі пашпартна-візавых дакументаў.

Калі грамадзянін мае пашпарт "старэйшы" за дзесяць гадоў і не збіраецца атрымліваць шэнгенскую візу, яму можна не хвалявацца. Такі пашпарт сапраўдны да тэрміну, які ў ім указаны, і ён прыдатны для вандровак у Расію, Украіну і іншыя краіны былога СНД.

За несвоечасовае атрыманне пашпарта альбо пасведчання на права жыхарства ў 14 гадоў прадугледжаны штраф да чатырох базавых велічынь (да 400 тысяч рублёў).

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №№6, 7.*

**ВАЛОЖЫН. Успаміны валожынца Мікалая Махнача, які ў 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родныя мясціны і больш туды ўжо не вярнуўся. Цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Пераклад з польскай мовы зрабіла Яўгенія Чаплінская з вёскі Літва Маладзечанскага раёна, былая аднакласніца і тайная сімпатыя Мікалая Аляксандравіча.

## Прыход саветаў

1 верасня 1939 года пачалася вайна. Немцы напалі на Польшчу. Ані ў польскім друку, ані па радыё не было пэўных звестак пра ход падзей, толькі гаварылі, што немцы бяруць верх над палякамі.

17 верасня раннім ранкам рота польскага войска, якая знаходзілася ў Валожыне, адступіла ў кірунку Наваградка. Прагучала, няпэўная яшчэ, вестка, што савецкая армія перайшла граніцу і прасоўваецца на захад. Я якраз варочаўся з табара і чакаў, што прыедзе возчык, каб забраць наша малако.

На вуліцах было шмат людзей, у прыватнасці на Касцельнай каля моста. Многія былі святочна апранутыя. Вядома ж, была нядзеля і людзі збіраліся ў царкву або касцёл. Але вестка пра прыход савецкага войска прыпыніла іх з цікавасці.

Недзе паміж 7-й і 8-й гадзінамі з'явіўся і першы танк з боку Капусціна. А хвілін праз 5-7 пад'ехала іх цэлая калона. Я сам сутыкнуўся з чырвонаармейцамі на вуліцы. Хоць па-расейску не размаўляў, але разумеў. Апрануты я быў у саматканую кашулю і порткі з дзюркамі на каленях, басаном. Адзін з іх і кажа: "Ну вот и один пролетарий нашёлся". Затрымалі мяне і пытаюць: "А где ваши рабочие и крестьяне поделись? Видим только панов, все разодетые". Адказваю ім па-беларуску, што гэта ніякія не "паны", толькі дробныя гаспадары, а што добра ўбраныя, дык сёння ж нядзеля, так апрануліся, каб у царкву ці касцёл пайсці. А я ў парваных портках таму, што вяртаюся з пашы, дзе даіў кароў. Нехта з іх яшчэ запытаў: "А что, у вас еще молятся?!".

Пасля прыбылі пяхота і конніца. Беларусы і яўрэі віталі савецкае войска даволі радасна – хлебам, соллю і кветкамі, пераважна вяргінямі. Але вялікага энтузіязму не было.

Паволі савецкая ўлада пачала дзейнічаць. Пайшлі па Валожыне чуткі, што НКВД арыштоўвае людзей, ловіць найперш польскую паліцыю і пакуль некаторых чыноўнікаў. З'явіліся палітрукі і пачалі арганізоўваць мітынгі. Зразумела, кожны такі мітынг пачынаўся ад паклонаў да "кремлевского алтаря". Потым пачалі запэўніваць, якое вялікае шчасце і будучыня нас чакаюць у межах "советской родины".

Недзе праз месяц ці трохі пазней адчынілі школу. Выявілася, што ўсе вучні, што хадзілі ў польскую школу, у класы 5, 6, 7 і нават 1-ы гімназічны, пераводзяцца назад у 5 клас. Новымі прадметамі былі расейская і беларуская мовы, а яшчэ гісторыя і геаграфія СССР. Не хапала новым уладам настаўнікаў, бо тыя, што навучалі ў польскіх школах, або ўцяклі, або ў большасці былі арыштаваныя.

Пачало ўсяго не хапаць. Яўрэі свае крамы і крамкі пазачынялі, тавар адразу ж пахавалі. Нельга было набыць самых неабходных рэчаў, такіх, як соль, цукар, газа для лямпаў, не кажучы ўжо пра адзенне, абутак. Праўда, адчынілі некалькі крамаў з хлебам, да якіх штодня выстройвалася чарга, чаго мы, валожынцы, за польскай уладай ніколі не бачылі, за выключэннем часам чаргі па білеты ў кіно.

Недзе, здаецца, у канцы сакавіка 1940-га адбылася паказуха, як мы, "новоосвобожденные" беларусы, украінцы, яўрэі і палякі, хочам далучыцца да Савецкага Саюза. Як бы інакш?!. І абвясцілі вынік, што больш за 90% далучэнне.

У гэтым жа годзе савецкая ўлада наклала на сялян падаткі. Акрамя грашовай платы, трэба было здаваць па "обязательству" збожжа, мяса. Штосьці казалі пра здачу малака і яек.

А яшчэ разгарнула агітацыю сярод вяскоўцаў за ўступленне ў калгасы. Вёска Бурмакі стала першай, якая стварыла калгас. Іншыя вёскі і валожынцы неяк не спяшаліся.

Шмат хто з мясцовых стаў задумвацца, якая прычына, што старая савецка-польская мяжа папанейшаму закрытая і пільнуецца савецкімі памежнікамі, хаця мы з'яўляемся часткай Беларускай Савецкай Рэспублікі, і што сем'і і родныя, калісьці падзеленыя Рыжскім дагаворам, не могуць сустрэцца і ўбачыцца? Што хавае савецкая ўлада?



**Жаўнеры 10-га плютона абясшкоджвання бомбаў. Сядзець: капрал Віктар Сяліцкі, капрал Ян Кішка, капрал Базыль Рубанік. Стаяць: старшы сапёр Ян Конік, капрал Юзаф Цада, старшы сапёр Мікалай Махнач. Порта сан Джорджыя, чэрвень 1944 года.**

*Фота з кнігі "Доўгая дарога да свабоды".*

Праз год можна было пачуць такія словы: "20 гадоў палякі нас вучылі, як стаць палякамі, і не навучылі. Прыйшлі саветы і навучылі праз год".

## Карэлія

29 красавіка 1941 года мне прынеслі павестку, каб прыйшоў у райвыканкам. Аказваецца, вярбавалі ў Карэлію на шэсць месяцаў, і не прымалася ніякая адмова. Хочаш ці не хочаш, а ехаць мусіш. На паўгода.

Было нас усіх 20 хлопцаў. Трое з Валожына: Аркадзь Купцэвіч з Бандароў, Мікалай Касоўскі з Келевіч і я. Астатнія з навакольных вёсак. Жукоўскі Эдзік з Забрэззя нядаўна ажаніўся, тры месяцы па шлюбе. Самаму старэйшаму было 32, мне, наймалодшаму, 17.

Праз некалькі гадзін нас пасадзілі на грузавік і завезлі ў Гародзькі на станцыю і перадалі нейкай жанчыне, якая павінна была нас даставіць у карэла-фінскую сталіцу – Петразаводск. Дакументы нашы таксама перадалі ёй. А яшчэ кожнаму на рукі выдалі па 380 рублёў авансу, які мы павінны былі пасля адпрацаваць у лесе.

5 мая мы прыбылі на канцавы прыпынак – у пасёлак Сапся Пражанскага раёна, гэта ў 80 кіламетрах ад Петразаводска, на Кіндасаўскі лесапункт. На наступны дзень мы ўжо працавалі на "катку" – скочвалі калоды сплаванага лесу ў раку на сплаў.

Работа была не з лёгкіх. Абавязкова трэба было выпрацаваць норму, а яе цяжка было вырабіць. Рэальна выходзіла, што мы зараблялі 8-10 рублёў, а праядалі 12-14. Значыць, кожны дзень мы ўсё глыбей западалі ў даўгі леспрамгасу.

## Пачатак вайны

Не ведаю, які б лёс нам выпаў, ды толькі 22 чэрвеня, як мы толькі пачалі працу ў лесе, адзін з майстроў прымчаўся верхам на кані і пачаў крычаць: "Кончай работу, проклятый немец напал на нашу страну!". Мы ўсе аслупянелі…

На наступны дзень сямёра хлопцаў з нашай валожынскай групы мабілізавалі ў Чырвоную Армію, засталіся толькі Коля Касоўскі з Келевіч, бо меў адно вока, і я, таму што мой 1923 год яшчэ не падлягаў мабілізацыі. А астатніх, нас ды і шмат іншых, недзе больш за 200 чалавек, праз тыдзень паслалі на будаўніцтва аэрадрома ў некранутым лесе. Адразу пачалася інтэнсіўная праца. Трэба было шмат дрэў сплаваць і вывезці, выкарчаваць пні, падрыхтаваць грунт для ўзлётных палос і зацэментаваць.

З-за таго, што на франтах Чырвонай Арміі не шанцавала, нас у хуткім часе арганізавалі ў "стройбатальёны" і павезлі пад франтавую зону на абаронныя работы – капаць акопы, працягваць калючы дрот, рыхтаваць кулямётныя ўстаноўкі.

Будучы на другім участку на акопах, я заўважыў маладога дзецюка, апранутага ў польскі вайсковы мундзір. Стоячы ў чарзе за ядой, выравшыў з ім пагаварыць. Аказалася, што ён – зямляк з-пад Смаргоні, Сцяпан Чартовіч.

Ад яго я даведаўся, што за мяжой у Лондане ёсць польскі ўрад і што гэты ўрад падпісаў дамову з савецкім урадам аб стварэнні польскай арміі з былых польскіх грамадзян, якія знаходзяцца на тэрыторыі СССР. З таго часу я паставіў сабе за мэту далучыцца да польскай арміі ў СССР.

А з Чартовічам я хутка развітаўся, пажадаў удачы дзе як яму туды, куды вяла дарога і лёс. Даў яму 50 рублёў, бо быў без капейкі. Калі на наступны год мне ўдалося прыстаць да польскай арміі, дык я яго шукаў, але мне не ўдалося нічога пра яго даведацца.

**Мікалай МАХНАЧ, ЗША.**

КАЛЯНДАР

**220 гадоў** назад (1793) у вёсцы Асцюковічы (цяпер – Ільянскі сельсавет Вілейскага раёна) на 10 гектарах закладзены парк пейзажнага тыпу, дзе больш за 30 відаў дрэў і кустоў. З'яўляецца помнікам садова-паркавага мастацтва.

***

**1 сакавіка.** 95 гадоў з часу выхаду (1918) першага нумара газеты "Дзянніца", весніка Белнацкама, першай савецкай газеты на беларускай мове (выдавалася да лютага 1919 г.).

***

**2 сакавіка.** 95 гадоў з дня нараджэння Алеся Бачылы (Аляксандра Мікалаевіча,1918 – 1983), паэта, драматурга, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Барыса Уладамірскага (1923 – 1991), акцёра, заслужанага артыста Беларусі.

***

**3 сакавіка.** 90 гадоў назад (1923) Цэнтральны выканаўчы камітэт СССР выдаў пастанову аб перадачы БССР раёнаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў з пераважаючым беларускім насельніцтвам.

***

**90 гадоў** з дня выхаду (1923) заходнебеларускай газеты "Новае жыццё". Выдавалася штотыднёва на беларускай мове ў Вільні Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыяй. Рэдактар Я.Лагіновіч.

***

**4 сакавіка.** 160 гадоў з дня нараджэння Іаахіма Глінскага (1853–1898), беларускага спевака, арганіста і кампазітара. Нарадзіўся ў мястэчку Будслаў, (Мядзельскі раён). Вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі. Працаваў арганістам у Гродне і Вільні. Пісаў месы, музыку на словы Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлі, танцы і маршы, аўтар оперы "Паята" на сюжэт з літоўска-беларускай гісторыі.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Калашнікава (1923 – 1994), беларускага акцёра, заслужанага артыста Беларусі.

***

**225 гадоў** з дня нараджэння беларускага танцоўшчыка Адама Бжазінскага (1768–?). Нарадзіўся ў Паставах. Да 1785 года прыгонны А.Тызенгаўза. Вучыўся ў яго балетных школах у Гродне і Паставах. Быў завешчаны магнатам каралю Рэчы Паспалітай Станіславу Аўгусту і ў 1785 годзе увайшоў як саліст у склад трупы "Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці". Танцаваў у Нацыянальным тэатры.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

КАЗКА

# Пра гузічак

– Што гэта бразгоча ў скрыначцы? Што гэта там бразгоча, мамка?

– Адчыні скрыначку і паглядзі сабе, Іванка.

Іванка адчыніў скрыначку і глядзіць. У скрыначцы адны гузікі. Гузікі белыя, гузікі чорныя і яшчэ жоўтыя і чырвоныя. Гузікі вялікія, гузікі малыя і гузічкі меншыя і найменшыя.

Іванка гуляў з гузічкамі. Набіраў іх у далонькі, затым высыпаў зноў у скрыначку. А гузікі валіліся, гузічак за гузічкам, стукалі і бразгаталі.

Для чаго гэтыя гузічкі, мама?

Для таго, каб знайсці той, які табе трэба.

Але мне не трэба ніводнага гузічка, мама.

– Добра паглядзі, Іванка. Ці ўсе гузічкі ў тваёй кашульцы? І ці ёсць гузічак на рукаўчыку, а на другім рукаве, а пад каўнерыкам?

Іванка глядзіць на гузічкі на рукаўчыках, пад каўнерыкам.

– Тут няма гузічка, мамка! Пад каўнерыкам на кашульцы!

Што цяпер будзем рабіць, Іванка?

– Пашукаю той гузічак у скрыначцы, мамка.

Іванка глядзеў, глядзеў і гузічак да кашулькі знайшоў.

І мамка гэты гузічак яму прышыла.

І так ужо ў Іванкі былі ўсе гузічкі прышытыя.

**З кнігі “Іванка” Францішка Тэнчыка.**
**З чэшскай мовы пераклала Яўгенія Чаплінская.**



Фота 2-rebf.ucoz.ru.

**Паспрабуй зрабіць такога коціка разам з бацькамі.**



Фота dasha-sadik.ru.

**Ці зможаш ты скласці такую аплікацыю з гузікаў? Папрасі бацькоў, каб дапамаглі.**

## А цяпер няхай дзеткі выканаюць наступныя заданні

1. Якога колеру гузічкі знайшоў Іванка ў скрыначцы?
2. Як яны бразгаталі? Паспрабуй паўтарыць такі гук.
3. А ці маеш ты, маленькі чытач, гузічкі на сваім адзенні? Палічы, колькі іх.
4. Як яшчэ, акрамя гузічкаў, зашпільваюць адзенне?
5. А ці ўмееш ты добра расшпільваць і зашпільваць гузікі?



**Вітаю цябе, мой сябар! Я – бобрык Рэгіян. Запрашаю цябе ў захапляльнае падарожжа па старонцы, якую падрыхтавалі спецыяльна для цябе. Тут ты знойдзеш і гульні, і размалёўкі, і цудоўныя казкі.**

ДЛЯ БАЦЬКОЎ

# Чым карысныя гузікі

**Гульня з гузічкамі вельмі карысная для дзетак. Яна развівае дробную маторыку рук. А чым лепш яна развітая, тым лепш дзіця гаворыць і тым прасцей яму вучыцца пісаць.**

Таму, набыўшы гузічкі розных памераў, колераў, тэкстуры, вы можаце арганізаваць безліч займальных і карысных гульняў.

### Гузікавы масаж

Высыпце гузікі ў скрыначку. Няхай дзіця апусціць ручкі і пачне перабіраць гузічкі, набіраць іх у кулачкі і высыпаць. Няхай уявіць, што гузічкі – гэта мора, у якім плаваюць яго пальчыкі.

Можна браць гузічкі паасобку і расціраць іх пальчыкамі. А таксама, не глядзеўшы ў скрыначку, узяць гузічак і апісаць яго: вялікі ці маленькі, круглы ці квадратны, драўляны ці металічны.

А цяпер высыпце гузічкі на падлогу – няхай сын ці дачка паходзяць па іх. Выдатна зрабіць невялікі дыванок – на тканіну нашыць розныя гузікі. Дзецям вельмі карысна па іх хадзіць.

### Гульня на памяць

Пакладзіце некалькі розных гузікаў на стол. Пачніце з трох. Няхай дзіця раскажа пра кожны: якога ён колеру, памеру і формы. А цяпер няхай дзіця заплюшчыць вочкі, а вы тым часам схавайце адзін гузік.

Сын ці дачка лёгка адгадаюць, якога гузіка не хапае. Колькасць гузікаў можна павялічваць, але заданне не павінна быць занадта складаным. Лепш адгадваць з трох-пяці гузікаў, каб дзіця трэніравала памяць. Бо калі вы будзеце выкладаць больш, чым сын ці дачка могуць запомніць, заданне стане вельмі цяжкім, адабʼе ахвоту гуляць і можа нават прымусіць расчароўвацца ў сваіх здольнасцях.

### Аплікацыі з гузікаў

Гузікі могуць стаць выдатнай мазаікай – з іх лёгка скласці любыя ўзоры. Вазьміце талерачку і выкладвайце кветкі, машынкі, жывёл.

РАЗМАЛЁЎКА

# Здагадайся, што гэта за звер!

**Злучы кропачкі паміж сабой, размалюй звярка, а потым адкажы на пытанні. Калі не зможаш адказаць сам, звяртайся па дапамогу да бацькоў.**

1. Што гэта за жывёліна?
2. Дзе яна жыве?
3. Чаму ў яе такі дзіўны хвост?
4. Якога яна колеру?
5. Чаму гэтую жывёліну называюць "будаўніком"?

Ці ведаеш, што гэты звярок быў занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Сто гадоў таму ва ўсёй краіне іх было ўсяго каля 300.



Малюнак "РГ".

КРЫЖАВАНКА

## Адгадай сем маленькіх загадак, і ўбачыш схаванае слова з сямі літар

1. Тое, што бачыш уначы, калі спіш.
2. Злы і страшны, шэры ...
3. Яна ідзе за днём.
4. Кажуць, што гэтая птушка прыносіць дзяцей.
5. Яго нясе курыца.
6. Яе можна ўбачыць у начным небе.
7. Яе чытаюць дзецям перад сном.



МОВА

# Беларусы – гэты мы

## Так адказалі некаторыя з сотні апытаных маладзечанскіх вучняў




Такімі малюнкамі вучні паказалі свае асацыяцыі з Беларуссю.

**МАЛАДЗЕЧНА. Мы распыталі ў сямікласнікаў і васьмікласнікаў, што яны ведаюць пра Беларусь і беларускую мову.**

Для гэтага раздалі сотні школьнікам анкеты з пытаннямі. Перад тым, як прачытаеце адказы вучняў, паспрабуйце і самі на гэтыя пытанні адказаць.

**1. Якія беларускія казкі вы ведаеце?**

На жаль, толькі адна дзяўчына назвала сапраўды беларускую казку "Людзей слухай, а свой розум май!" Што ж тычыцца астатніх апытаных, сярод іх былі найбольш папулярныя адказы: "Калабок", "Курачка Раба", "Сіўка-Бурка", "Канёк-Гарбунок" – рускія народныя казкі. У беларускія запісалі нават твор французскага пісьменніка "Маленькі прынц".

Многія сямі-васьмікласнікі лічаць казкамі такія творы, як "Сымон-музыка" Якуба Коласа, "На Каляды к сыну" Змітрака Бядулі, "Незагойная рана" Васіля Быкава (!). Якраз гэтыя творы яны нядаўна праходзілі па школьнай праграме.

Трэць у адказе на гэта пытанне проста паставілі прочырк.

**2. Назавіце трох беларускіх пісьменнікаў.**

Усе вучні змаглі прыгадаць трох беларускіх аўтараў. У выніку ў нас атрымалася, што дзеці ведаюць Янку Купалу, Якуба Коласа, Цётку, Рыгора Барадуліна, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Янку Брыля, Пімена Панчанку, Ніла Гілевіча, Максіма Танка, Змітрака Бядулю, Кандрата Крапіву, Васіля Зуёнка, Леаніда Галубовіча, Тараса Хадкевіча.

Францішка Скарыну таксама запісалі ў беларускія пісьменнікі.

**У восьмым класе на беларускую мову і літаратуру ў другім паўгоддзі адводзяцца дзве гадзіны і адна гадзіна ў тыдзень суадносна (для параўнання – англійскай мовы тры гадзіны ў тыдзень).**

14-гадовы Раман на пытанне адказаў так: "А. Пушкін – вядомы беларускі пісьменнік".

**3. Ці будзеце вы карыстацца інтэрнэтам, калі ён цалкам будзе беларускамоўны?**

59 чалавек адказалі, што будуць. 13-гадовая Насця ўдакладніла: "Буду, але перакладаючы словы пры дапамозе Google".

А 41 школьнік адмовіўся б карыстацца інтэрнэтам, калі ён стане на беларускай мове.

**4. Ці лічыце вы сябе беларусам?**

У шасці школьнікаў быў адказ 50/50. Дзевяць школьнікаў не лічаць сябе беларусамі, а 13-гадовая Марта адказала: "Над гэтым трэба задумацца".

85 школьнікаў пацвердзілі, што яны беларусы. Аднак на гэта пытанне адказалі рускім словам "да". Двое з іх удакладнілі: "Не кітайцы ж!"

Парадаваў адказ 12-гадовага Андрэя "Я – беларус! І яшчэ які!!!"

**5. Ці лічыце вы беларускую мову сваёй роднай?**

Шостая частка школьнікаў не лічыць беларускую мову роднай, а астатнія адказалі станоўча. Праўда зноў – рускім словам "да".

Адзін з адказаў быў такі: "Так, лічу, але карыстаюся ёй толькі на ўроках беларускай мовы і літаратуры".

**6. Хто такія беларусы?**

Адказы былі вельмі розныя. Пералічым некаторыя з іх.

Беларусы – гэта "добры, шчыры народ", "свабодная нацыя", "слаўны народ з працвітаючай эканомікай", "бульбашы", "шчырыя, ветлівыя, добрыя, гасцінныя людзі", "мае сяродзячы", "людзі з белымі валасамі", "моцныя людзі", "паважаныя людзі", "мяшок бульбы".

**7. Назавіце ваша любімае слова на беларускай мове.**

Амаль палова апытаных сваім любімым назвала слова "каханне". Шмат было слоў ветлівасці: дабранач, калі ласка, да пабачэння (калі захавала арфаграфію аднаго з аўтараў – "дапапачене"), дзякуй.

Адметна тое, што многія любімыя словы школьнікі пісалі з памяншальным суфіксам: агеньчык, сонейка, зорачка, птушачка, хмарка, хатка, матуля.

Сустракаліся словы: цукерка, малпа, дрот, торба. Чатыры васьмікласнікі сваім любімым назвалі слова "бульба".

Адзінкавыя адказы: зграбна, лён, накіраванасць і нават шчарбель.

**8. Прыгадайце які-небудзь верш на беларускай мове.**

11 чалавек успомнілі радкі Янкі Купалы: "Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына…"

Восем чалавек успомнілі верш Максіма Багдановіча "Па-над белым пухам вішняў…"

Сем чалавек прыгадалі радкі Рыгора Барадуліна: "Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы, Мы – беларусы, мы – народ такі".

Шэсць чалавек успомнілі радкі Данута Бічэль-Загнетавай: "Пад казачным дубам над Нёманам сінім…"

Шэсць чалавек працытавалі радкі з верша Якуба Коласа "Ручэй": "Між алешын, кустоў, дзе пяе салавей, і шуміць, і грыміць срэбразвонны ручэй".

Трое ўспомнілі верш Янкі Купалы "Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі…"

Яшчэ трое прыгадалі радкі Леаніда Галубовіча "Ты – боль, паэзія. Ты – быль…"

Шэсць школьнікаў на гэта пытанне адказалі радкамі з гімна Беларусі.

**9. Намалюйце свае асацыяцыі з Беларуссю.**

Многія малявалі бульбу, дранікі, бусла, каласы, васількі, слуцкія паясы, рэкі, лес, азёры, трактары, карту Беларусі, дзяржаўны сцяг і герб і нават партрэт прэзідэнта.

З гэтых адказаў мы зрабілі выснову, што ў школьнікаў шаблоннае ўяўленне пра Беларусь. Калі ў быце з'яўляецца новая рэч, падлеткам прасцей называць яе рускім словам, чым шукаць беларускі адпаведнік.

Пакуль асноўнай крыніцай усяго беларускага для іх застаюцца ўрокі беларускай мовы і літаратуры.

**Даведка "РГ".** Google – пошукавая сістэма ў інтэрнэце, адна са службаў якой дапамагае перакладаць словы з розных моў.



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08@mail.ru

ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

# Прэстыжны турнір, які прысвечаны памяці Сяргея Новікава

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйны турнір сярод юнакоў праведзены ў пасёлку Чысць ужо дваццаць другі раз. Ён прымеркаваны да тых датаў календара, што выпадаюць на лютны: Дня вываду савецкіх войскаў з Афганістана і Дня абаронцаў Айчыны.**

Жыхары нашага раёна не маглі не ўшанаваць памяць воіна-інтэрнацыяналіста, старшага лейтэнанта Сяргея Новікава, які гераічна загінуў падчас баявых дзеянняў у далёкай азіяцкай краіне. Ён нарадзіўся ў вёсцы Краснае, тут у яго гонар названая вуліца. Бацька, былы партызан, і маці-настаўніца выхавалі сапраўднага афіцэра.

Сяргей Новікаў сам займаўся грэка-рымскай барацьбой, так што ад 1991 года і стаў правадзіцца гэты турнір. На пачатку быў маленькім, раённым. Праз пэўны час вырас у рэспубліканскі, унесены ў афіцыйны каляндар федэрацыі свайго віду спорту. Па колькасці камандаў, што прыязджаюць, і агульнай колькасці юных удзельнікаў з'яўляецца ледзь ці не рэкардсменам у Беларусі. Тут выступалі многія будучыя члены нацыянальнай зборнай.

Заслуга ў такой папулярызацыі гэтага турніру належала **Сяргею Сафронаву**, настаўніку фізкультуры з Чысцінскай сярэдняй школы, які і сам рыхтаваў барцоў, паралельна працуючы ў спартыўнай школе. Дарэчы, у яго пяцёра сыноў, іх сям'я станавілася пераможцай раённага конкурсу шматдзетных сем'яў. Так здарылася, што ў 2012 годзе жыццё трэнера трагічна абарвалася. І цяпер прынятае рашэнне дапоўніць назву турніру яго іменем як заснавальніка.

Дарэчы, сёлета галоўным суддзёй на турніры выступіў трэнер маладзечанскай ДЮСШ №1 **Яўген Цярэшка**, былы выхаванец Сяргея Сафронава. Арганізатарамі спаборніцтваў сталі гэта самая спартыўная школа аддзела ФКСіТ ды фізкультурна-спартыўны цэнтр дзяцей і моладзі аддзела адукацыі. Сабралася трыццаць адна каманда, прадстаўленыя ўсе вобласці нашай краіны, каля 280 удзельнікаў у 11 вагавых катэгорыях. Напрыклад, з Мінска шэсць юных дружын розных спартыўных школ, з Гродна – тры. Найбольш хлопцаў прыехала са сталічнага МДЦАРа – 25 чалавек, з Мазыра – 18. Мінімальна – два – са Светлагорска. Упершыню былі госці з Украіны: шэсць юных спартсменаў з горада Роўна. Наш раён выставіў дзве каманды: 14 чалавек з Чысці, 10 чалавек з Маладзечна.

У мінулым нумары "Рэгіянальнай газеты" была аператыўная інфармацыя аб выніках турніру, пра тое, што на рахунку гаспадароў пяць прызавых месцаў, з іх адно – пераможнае. Застаецца дадаць, што трох нашых прызёраў падрыхтаваў трэнер **Антон Найлавец**, па адным прызёры – трэнеры Яўген Цярэшка і **Віктар Вянглоўскі**.



Сяргей ГАЙКОВІЧ.
E-mail: sm2@tut.by

КОННЫ СПОРТ

# Дзякуючы верхавой яздзе хлопчык пачаў хадзіць

**МАЛАДЗЕЧНА. Школа коннага спорту дзейнічае больш за 10 гадоў. Яе дырэктарам з'яўляецца Наталля Шалейма.**

Не звяртаючы ўвагі на халады і снег, аматары коней застаюцца частымі наведнікамі гэтага месца.

**– Наталля Барысаўна, ведаю, што гэты год для вас юбілейны?**

– Так, нам спаўняецца 15 гадоў (працуем з 1998 года). Першапачаткова школа мела тры аддзяленні: лёгкая атлетыка, конны спорт і настольны тэніс. На сённяшні дзень існуюць аддзяленне коннага спорту, якое адкрылася на базе ААТ "Палачаны", і аддзяленне фехтавання – на базе спартыўна-забаўляльнага цэнтра, і залы фехтавання на станказаводзе ў Маладзечне.

**– Які ўзрост лічыцца лепшым, каб пачаць займацца конным спортам?**

– Аптымальны ўзрост – 10-12 гадоў. Ён лічыцца нармальным па медыцынскіх паказаннях. Менавіта ў гэты перыяд для заняткаў конным спортам развітыя асноўныя фізічныя здольнасці ў дзіцяці.

**– Якімі якасцямі павінны валодаць дзеці, каб займацца верхавой яздой?**

– Вядома, яны павінны быць дужымі, мець добрую каардынацыю, спрытнымі, працавітымі. Трэба адзначыць яшчэ тое, што на першым месцы павінна быць любоў да коней, асаблівыя адносіны да такой жывёлы. Гэта вельмі спецыфічны від спорту, прыгожы. За мяжой конны спорт лічыцца адным з самых прэстыжных, а ў нашай краіне, на жаль, ён не мае такой цікавасці.

**– Вядома, што з дапамогай коней яшчэ і лечаць. Ці ёсць іпатэрапія ў Палачанах?**

– Не. Дзеля гэтага ў штаце павінны быць доктар, псіхолаг, трэнер – спецыяліст, які скончыў курсы па іпатэрапіі. Іх можна скончыць толькі ў Расіі ці Англіі. Дзеці, якія маюць праблемы з апорна-рухальным апаратам – частыя наведнікі коннай школы. У нас ёсць магчымасць даць каня і трэнера, а бацькі, звычайна самастойна, пад сваю адказнасць, займаюцца з дзіцем. Быў такі выпадак, калі хлопчык, які зусім не мог хадзіць, пасля такіх заняткаў устаў на ногі. Безумоўна, акрамя гэтага ён выконваў комплекс іншых працэдур дзеля выздараўлення.

**– Калі лепш запісваць дзяцей ў школу?**

– Запіс дзяцей праводзіцца пастаянна. Найлепей прыходзіць у пачатку летніх канікулаў. Каб за лета падвучыцца і з верасня пачаць паўнавартасна займацца.





Знайсці паразуменне з коньмі можна ў любым узросце.

**– Для каго заняткі бясплатныя, а для каго – не?**

– Заняткі бясплатныя для тых дзяцей, якія прыйшлі ў школу ва ўзросце 10-12 гадоў. Меншых не бяром. У іх пачынаецца этап пачатковай падрыхтоўкі, фарміруюцца вучэбна-метадычныя групы, дзе дзеці ўжо пачынаюць выступаць на спаборніцтвах, а таксама атрымліваюць спартыўныя разрады. Потым фарміруецца група спартыўнага ўдасканалення, дзе яны атрымліваюць званне кандыдата ў майстры спорту, выступаюць на рэспубліканскіх спаборніцтвах. А для астатніх людзей будуць заняткі платныя.

Разам са школай коннага спорту ў Палачанах працуе пракат коней. Кожную нядзелю там збіраюцца людзі розных прафесій і інтарэсаў, якіх аб'ядноўвае жаданне правесці свой адпачынак сярод гэтых жывёл.

Задаём некалькі пытанняў і інструктару па пракаце **Алене Белавус.**

**– Алена Вячаславаўна, якія плюсы можна знайсці зімой і летам у верхавой яздзе?**

– Зімой лепш вучыцца. Бо ў такую пару года мы займаемся ў манежы і зразумела, што конь нікуды далёка не зможа вас панесці, калі раптам яго нешта напалохае ці не спадабаецца. А летам у нас працуюць два трэніровачныя палі, таксама здараюцца і выезды.

**– Што, як вам здаецца, больш вабіць наведнікаў?**

– Кожны чалавек прыязджае сюды за нечым сваім: хтосьці жадае навучыцца катацца на конях, а хтосьці любуецца імі, гладзіць і проста атрымлівае асалоду ад гэтай атмасферы. Адразу паляпшаецца настрой, прыходзіць спакой, і ўсе праблемы адыходзяць на іншы план.

**Аляксандра ЭГЕРТ.**

ЛЫЖНЫ СПОРТ

## У Мядзеле прайшла "Беларуская лыжня-2013"





На старце эстафеты.

**МЯДЗЕЛ. У суботу, 23 лютага, адбылося раённае зімовае спартыўнае свята "Беларуская лыжня-2013". Праходзіла яно ў лясным масіве каля вёскі Шыкавічы. Удзельнікі высвятлялі хутчэйшых у эстафеце: у кожнай камандзе беглі па двое мужчын і жанчына.**

Каманды былі падзелены на тры групы. Найбольш удзельнікаў было ў той, дзе змагаліся арганізацыі і прадпрыемствы раёна. Тут перамогу атрымалі супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях. Сярод прадстаўнікоў мясцовых камітэтаў мацнейшай была каманда Свірскага пасялковага Савета.

Пераможцаў узнагародзілі кубкамі, граматамі і грашовымі прэміямі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

### Змагаліся будучыя абаронцы Айчыны

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 23 лютага адбыліся раённыя спаборніцтвы па мнагаборстве комплексу "Абаронца Айчыны". Уключалі яны падцягванне, лыжныя гонкі, стральбу з пнеўматычнай вінтоўкі. У агульнакамандным заліку першае месца заняла каманда сярэдняй школы №2 Мядзела.

### Будслаўчанка трапіла ў зборную вобласці

**МЯДЗЕЛ.** 20 лютага ў Маладзечне адбыліся абласныя спаборніцтвы "Снежны снайпер". У асабовым заліку вучаніца Будслаўскай сярэдняй школы **Кацярына Хацяновіч** заняла трэцяе месца ў старэйшай узроставай катэгорыі. Яна ўключаная ў зборную вобласці для ўдзелу ў рэспубліканскіх спаборніцтвах "Снежны снайпер".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС

## Вызначылі лепшага тэнісіста

**ВІЛЕЙКА. 22 лютага на базе фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" прайшоў чэмпіянат раёна па настольным тэнісе сярод мужчын. Прынялі ўдзел у спаборніцтвах дзесяць чалавек.**

– Спаборніцтвы праходзілі па кругавой сістэме, – паведаміў інструктар-метадыст РФАЦ "Імпульс" **Аляксандр Вайда.** – Прызёры вызначыліся ва ўпартай барацьбе.

Чэмпіёнам стаў **Андрэй Алешка**, на другім месцы – **Андрэй Салаўёў**, на трэцім – **Сяргей Асіюк**.

**Аддзел інфармацыі.**





Злева направа: Андрэй Салаўёў, Андрэй Алешка, Сяргей Асіюк.

# Камент-эксперт



**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Тры жанчыны зайшлі да бабулі пагрэцца і паесці сала ды абакралі

Вось дык аддзячылі бабулі за прытулак і гасціннасць, забраўшы апошнія грошы. Шкада бабулю, што яе дабрата сустрэлася з бяздушнасцю і махлярствам трох ашуканак. ***Зямляк.***

### Трое п'яных пацярпелых у аварыі пасажыраў "Пежо" збеглі з бальніцы

Мабыць, у кіроўцы ад выпітай гарэлкі перад вачыма былі тры дарогі. Нядоўга думаўшы, ды і хуткасць гэтага не дазваляла зрабіць, ён выбраў сярэднюю. Хто ж ведаў што яна вядзе прама у кювет, а не на Нарач. Атрымоўваецца нейкі новы сродак хуткага працверазення. Для гэтага трэба проста з'ехаць у кювет і перакуліцца. ***Зямляк.***

### Як мы шукалі ў крамах воцат, парасон і станік

Лухта. Вам заняцца няма чым? ***Андрэй.***

Дзякуй, артыкул спадабаўся:) Андрэй, ісці б вам лесам. ***Раціме́р.***

Вельмі спадабалася. Эксперымент – справа не толькі цікавая, але і небяспечная. Аўтарам давялося праявіць цярпенне і смеласць. На жаль, ёсць такія шкодныя і, прабачце, неразумныя людзі, якія, калі да іх звяртаюцца на беларускай мове, пачынаюць крыўляцца і адказваць са здзекам. А трэба было б захапляцца беларускамоўнымі людзьмі!!! ***Ляля.***

Паважаная(ны) Ляля, як над мовай, так і над самой краінай і яе насельніцтвам заўжды ішоў здзек. То з усходу, то з захаду. А іх лазутчыкі тут ажыццяўлялі і па сённяшні дзень ажыццяўляюць гэты здзек. І крыўдна тое, што ў нас няма ніякай дзяржаўнай абароны ад гэтага здзеку. А лепшага чакаць і не здзіўляцца, калі нярэдка можна пачуць крыўлянне беларускай мовы прама зверху. Крыўдна, вельмі крыўдна! Абараняць беларускамоўе вельмі складана на вуліцы, а калі Вам на беларускамоўнае пытанне адказалі хамствам і здзекам у якой-небудзь установе альбо краме, адразу патрабуйце Кнігу скаргаў і зрабіце адпаведны запіс. Гэта пакладзе вельмі добры пачатак у Вашай барацьбе з дыскрымінацыяй беларускай мовы. Калі Вы так зробіце, будзеце ўпэўненыя, што гэты запіс у кнізе проста так без увагі не застанецца, таму што ён ужо мае палітычны характар. І тут парушальніка ўжо можа чакаць больш сур'ёзнае пакаранне, чым адміністрацыйнае. Вось пасля гэтага няхай адпаведныя службы і тлумачаць тым крыўлякам, што беларуская мова, як і руская, з'яўляецца дзяржаўнай, "нормальной" і таксама "человеческой"! Зычу поспехаў неабыякавым беларусам у абароне сваёй мовы. Не схіляйце галаву перад крыўдзіцелямі, а трымайце яе на сваім годным узроўні. Мне вельмі падабаецца верш Якуба Коласа, напісаны ім больш стагоддзя таму, але як ён дабра адпавядае цяперашнім нам, нашай сучаснасці. Задумайцеся над гэтымі вось радкамі: Ты не гніся, брат, ніколі Траўкаю пахілай, Сам пружыны сваёй долі Выкуй ўласнай сілай! Бо хоць кажуць, што з уклону Не баліць галоўка, – Не зважай: з ярмапрыгону Выйшла гэта слоўка. Не прасі, не спадзявайся Ты на дапамогу, Сам з нягодамі змагайся, Сам прабі дарогу! Хоць памогуць табе людзі Адшукаць дарогі, А саб'ешся, зноў ты будзеш Абіваць парогі. Не лісціся к сільным, дружа, Зеллейкам-бярозкай, Бо не выйдзеш век з-пад гужа, Страціш вобраз боскі, І ў людзей ты гонар страціш – І цябе зракуцца: Лепш змагацца вольным, браце, Чым цярпець ды гнуцца. ***Алесь Раткевіч.***

**РЭПЕРТУАР КІНАТЭАТРА "РАДЗІМА"**

**ВЯЛІКАЯ ЗАЛА**

Прэм'ера! Фільм-катастрофа **"Метро"** (Расія, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам ад 16 гадоў)
**1 сакавіка – у 16.30, 19.00, 21.30**
**2, 3 сакавіка – у 14.00, 19.00, 21.30**
**4-6 сакавіка – у 19.00, 21.30**
Кошт білета – 20 000 рублёў

Ваенная драма **"У тумане"** (Беларусь, Расія, Германія, Нідэрланды, 2012, дзецям да 14 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**2, 3, 6 сакавіка – у 16.30**
Кошт білета – 22 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі **"Оз: вялікі і магутны"** (3D, ЗША, 2013)
**7 сакавіка – у 15.00, 18.00**

Прыгоды **"Жыццё Пі"** (ЗША, 2012)
**7 сакавіка – у 21.30**

**ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ**

Ваенная драма **"У тумане"**
**1-6 сакавіка – у 18.00, 20.30**
**7 сакавіка – у 17.30, 20.30**
Кошт білета – 25 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды. **"Болт і Бліп спяшаюцца на дапамогу"** (Канада, Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
**1, 6, 7 сакавіка – у 16.00**
**2 і 3 сакавіка – у 12.30, 14.00, 16.00**
Кошт білета – 10 000 рублёў

Тэлефон для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

СВЯТЫ

# Як у Астраўцы зіму праводзілі



Астраўчане вельмі весела праводзілі зіму!

**АСТРАВЕЦ. У мінулую суботу, 23 лютага, астраўчане развіталіся з зімой.**

Пад гукі духавога аркестра жыхары Астраўца ішлі ад цэнтра горада на стадыён, каб павесяліцца на славу.

У святочным мерапрыемстве прымалі ўдзел Дзяды Марозы, Снягуркі і іншыя казачныя персанажы.

Нягледзячы на тое, што ў гэты дзень быў невялікі марозік, ён не палохаў дзяцей і дарослых, якія выйшлі на вуліцу з песнямі, танцамі і вясёлымі прыпеўкамі.

– Калі мы прыйшлі на стадыён, Дзяды Марозы размеркаваліся па так званых "кропках", – паведамляе нашаму выданню дырэктар раённага метадычнага цэнтра **Анастасія Клімашэўская**. – Там яны разыгрывалі бяспройгрышныя латарэі, праводзілі конкурсы.

Самым цікавым святочным спаборніцтвам для астраўчан па традыцыі стаў кірмашовы слуп.

Атрымаць падарунак было не так проста. Але знайшлося нямала ахвотных паказаць сваю сілу і спрыт і залезці на пяціметровы слуп, на якім віселі чатыры скрыначкі з падарункамі.

– Ведаючы, што на слуп палезуць адны мужчыны, мы падрыхтавалі адпаведныя прызы. У скрынях былі мужчынскія парфумерныя наборы. Але была і шкляная ваза, – кажа Анастасія Клімашэўская.

Спартыўную частку свята склалі спаборніцтвы па перацягванні каната.

А якія ж провады зімы без бліноў з гарачым чаем ды шашлыкоў! На стадыёне стаялі палаткі, дзе астраўчане маглі пачаставацца смачнымі стравамі.

Па традыцыі спалілі пудзіла Матухны-зімы, якая забрала з сабой усё самае дрэннае і "халоднае". Завяршылася свята вясёлым карагодам каля полымя.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**14 чацвер 12.30 "Всё будет хороШОУ!" (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне) ідзе на рускай мове Алег Чэчанеў**
**26 аўторак 10.30 "Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў" (казка-страшылка), ідзе на рускай мове Алег Чэчанеў**
**28 чацвер 11.00 "Кошкі-Мышкі" (казка-гульня па матывах п'есы Аркадзя Хайта "Дзень нараджэння ката Леапольда") А.Хайт**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**Вясновы падарунак "Такое рознае каханне..." з 4-х спектакляў**
**1 пятніца 19.00 "Банкет"** (сентыментальная камедыя) *Ніл Сайман*
**2 субота 17.00 "Любоў па-італьянску" (**трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э.дэ Філіпа "Цыліндр" *Эдуарда дэ Філіпа*
**5 аўторак 19.00 "Верная жонка"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сомерсет Моэм*
**6 серада 19.00 "На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) *Юры Вута*
**13 серада 19.00 ПРЭМ'ЕРА. "Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*
**15 пятніца 19.00 "Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча) *Уладзімір Рудаў*
**16 субота 17.00 "Маленькі свет..."** (жорсткая меладрама ў 2-х дзеях) *Алена Папова*
**19 аўторак 19.00 "Чатыры навелы пра каханне"** Сямён Злотнікаў, Валянцін Распуцін, Людміла Пятрушэўская, *Аляксей Слапоўскі*
**22 пятніца 19.00 "№13"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Рэй Куні*
**26 аўторак 19.00 ПРЭМ'ЕРА. "Карона з кахання"** (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы) *Анатоль Дзялендзік*
**27 серада 19.00 ПРЭМ'ЕРА. "Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,* тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by.

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | 2 | 5 | 4 | | | | |
| 7 | | | 6 | | | | | 8 |
| | | 1 | | | 7 | | | |
| | 6 | | | | 8 | | 2 | |
| | 7 | 8 | | | | 1 | 4 | |
| | 3 | | 2 | | | | 8 | |
| | | | 7 | | | 5 | | |
| 3 | | | | | 5 | | | 4 |
| | | | | 1 | 2 | 6 | | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ГАРАСКОП (1-7 САКАВІКА)


**Авен.** Калі вы заўважылі, што надта часта канфліктуеце са сваімі блізкімі, то варта задумацца пра тое, ці правільна вы сябе паводзіце, паглядзіце на сябе збоку, і вам стане многае зразумелым.


**Цялец.** На шмат каго з вас крайне негатыўна дзейнічае руціна, аднастайнасць уганяе ў сум. Не рызыкуйце, калі ёсць жаданне паставіць на карту ўсё, што вам дорага.


**Блізняты.** Калі раптам вы апынецеся ў цэнтры канфлікту, то не апускайцеся да дробязных крыўдаў і высвятлення адносін, прытрымайце злосць і агрэсію, бо яны будуць дзейнічаць вам на шкоду.


**Рак.** Каб мець больш шансаў на поспех, будзьце бліжэй да зямных спраў. А калі хто назаве вас меркантыльным, то гэта ад зайздрасці.


**Леў.** Памятайце, што самыя здаровыя і прыгожыя людзі – гэта тыя, якіх нічога не раздражняе.


**Дзева.** Вас чакаюць сур'ёзныя перамены, уплываць на якія вы не зможаце па ўласнай волі. А можа, так яно і лепш.


**Шалі.** Баланс ва ўсім. Вам не трэба адмаўляцца ад таго, што даўно ўвайшло ў прывычку, але калі гэта можа нашкодзіць вашаму здароўю, то карэктуйце свой унутраны свет. Ад гэтага зменяцца і прывычкі.


**Скарпіён.** Узважвайце кожнае слова, бо балбатлівасць можа сыграць з вамі злы жарт. Калі ёсць час для філасофскіх роздумаў, то перагледзьце свой погляд на ўласнае становішча ў грамадстве.


**Стралец.** Вам захочацца змяніць свой імідж: напрыклад, змяніць прычоску, стыль макіяжу ці адзення. Зоркі не раяць вам гэтага рабіць цяпер, паколькі навакольныя скептычна аднясуцца да змяненняў вашай знешнасці.

**Казярог.** Тым, чыё сэрца пакуль свабоднае, перыяд прынясе зорную сустрэчу. Пастарайцеся не прапусціць. Сямейным жа пажадана падумаць удалечыні ад людской мітусні і прыслухацца да голасу інтуіцыі. Ёсць шанс, што праблемы знікнуць самі па сабе.


**Вадалей.** Магчыма, вы станіце на парозе сур'ёзных перамен у жыцці.


**Рыбы.** Не забівайце сабе галаву тым, што вас не тычыцца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета

### НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +0 / +4 | | -1 / -1 | | -2 / +3 | | -5 / -4 | |
| | 729 | ↘ 9 | 737 | ↘ 5 | 725 | → 9 | 736 | ↓ 11 |
| Вільня | 0 / +4 | | -2 / 0 | | -2 / +2 | | -6 / -4 | |
| | 740 | ↘ 10 | 748 | ↘ 5 | 734 | → 9 | 749 | ↓ 10 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.57
Захад 18.52
Даўжыня дня 10.55

Усход 0.00
Захад 9.22
Квадра 3

**2 сакавіка, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -3 / -1 | 742 | ↓ 6 |
| Гродна | -1 / -1 | 749 | ↘ 5 |
| Мінск | -1 / -1 | 737 | ↘ 5 |
| Магілёў | -2 / -2 | 743 | ↘ 6 |
| Брэст | -2 / +2 | 747 | ↘ 7 |
| Гомель | -4 / -1 | 747 | ↘ 7 |

### ПРЫКМЕТЫ

- У марцы як у гарцы: сцюдзёна, цёпла, снег, дождж.
- Уздзеў Ярыла зіму на вілы.
- Рана пачне снег раставаць – доўга не растане.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Алена і Павел Субаты сем гадоў марылі пра дзіця. Потым у іх нарадзілася двойня. А праз год – яшчэ адна. Цяпер маладыя бацькі гадуюць чацвярых дзяцей – двух хлопчыкаў і дзвюх дзяўчынак. Пра гэта чытайце ў наступным нумары "РГ".**

### АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МЯДЗЕЛА

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**У Старлыгскай сярэдняй школе-садзе на Мядзельшчыне дзеці змайстравалі больш за 30 шпакоўняў. Зрабілі іх на ўроках працы вучні пятых-восьмых класаў. Заказ на шпакоўні паступіў ад мясцовага лясніцтва. На здымку Аляксандр Лукша і Мікіта Куркуль.**

### АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ СМАРГОНІ

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**У аўторак, 26 лютага, на чыгуначнай станцыі ў Смаргоні з'явілася новая шыльда. Рускамоўны надпіс "Станцыя Сморгонь" цяпер бачны на будынку з боку горада. Супрацьлеглы бок станцыі, адкуль адыходзяць цягнікі, застаецца беларускамоўным.**







### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў СМАРГОНІ

## Што для вас з'яўляецца першай прыкметай вясны?

**Яўген Курачко, электрык:**

– Вядома, сонейка! Таксама пралескі – іх я звычайна бачу, калі ранняй вясной бываю за горадам. Сёлета яшчэ пакуль не бачыў.

**Настасся Сячынская, у дэкрэтным адпачынку:**

– Для мяне гэта птушыныя спевы. Птушкі співаюць і зімой, але ўвесну неяк мацней, адразу звяртаеш на гэта ўвагу. А таксама цямнець пачынае пазней.

**Валянціна Шульга, пенсіянерка:**

– Вясенні капеж. У мяне за акном вісіць кармушка, дык я заўважыла, што сінічкі пачалі мыцца ў кропельках, якія падаюць з даху. А таксама сонца яркае – сёння вось аж вочы слепіць!

**Людміла Калеснік, інжынер па ахове працы:**

– Для мяне вясна – гэта ўласны добры настрой. Заўважаю, як разам з прыродай пасля зімы прачынаюцца людзі, быццам унутры ў іх пачынае біць жыццё.

**Настасся Яхнавец, у дэкрэтным адпачынку:**

– Дзень становіцца даўжэйшым, сонейка больш яркае. Вясну і па людзях бачна – ва ўсіх настрой лепшы, бо ўсе ведаюць, што хутка будзе цёпла.

**Андрэй Чычыгін, будаўнік:**

– Вясна – гэта пупышкі на дрэвах. Я іх пакуль не бачыў у Смаргоні. Дзень ужо стаў больш доўгім, на працу падымацца зранку лягчэй. Ад прадчування вясны і настрой паляпшаецца. А ў мяне ён цяпер пастаянна добры – на днях мая жонка нарадзіла дачку!

**Анатоль Беняцэвіч, пенсіянер:**

– Я адчуваю вясну па цёплым надвор'і. Вось у бліжэйшыя дні абяцалі да 6 градусаў цяпла. Так што чакаю прыходу сапраўднай вясны.

**Падрыхтавала Аляксандра ПАРАХНЯ.**

Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6650 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 9 (931) 1.03.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 150. Падпісана ў друк у 10.00 28.02.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.